

Фэст здароўя → 3


# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714




Дойлідства Падляшша → 5


http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 38 (2994) Год LVIII | Беласток, 22 верасня 2013 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


# Антыгоны на загонах

Памежжа — гэта і драпежнасць. Драпежнасць, якая ўзбуйняецца ў час гістарычных завірухаў і крыху сціхае ў мірны час. Але яна — неад'емная частка нашага жыцця ў гэтым месцы Еўропы, так натуральная як энергетычны сняданак, што дае зарад на ўвесь дзень. Міжнацыянальная, канфесійная памежная драпежнасць — пладавітае дрэва дабра і зла, якім кормяцца пісьменнікі і артысты, палітычныя авантурысты ды спецслужбы, звычайныя бандзюгі ці проста суседзі, якіх узаемныя крыўды лёгка асэнсоўваюцца большымі ці меншымі матамі ў бок сваіх кацапаў, ляхаў, жыдоў, татараў.

Таня і Сакрат ЯНОВІЧЫ,
Крынкі, 29.05.2008



Фота Ганны КАНДРАЦЮК

І часта ў нас так бывала, калі прыспешвала гісторыя, што рука, якая павінна паціснуць руку іншапляменца ў знак вітання і пашаны, заціскалася кулаком, у якім хутка апыналіся камень, нож, пісталет, граната. А дзве рукі, якія маглі б пяшчотна суцяшаць сваіх блізкіх ці каханых, з пагардай і нянавісцю заціскаліся на суседскіх шыях са звярыным пераможным крыкам: «Здыхай!». Здыхаць прыходзілася найперш мужчынам. Глядзець усе гэтыя відовішчы — справа жанчын і дзяцей. Глядзець і не здурэць, вытрываць і выжыць — біялагічны запавет, за які чалавечы род адпавядае ад тысячагоддзяў. Мо давайце ўдакладнім — усё ж такі ў большай ступені адпавядае жаночая яго частка. Тысячагоддзямі ў кожным найменшым куточку зямлі маці, жонкі, каханыя выпраўлялі сваіх сыноў, мужаў, унукаў на «самыя справядлівыя» войны і выраўнаванні чалавечых рахункаў крыўд. А потым трымцелі іхнія сэрцы і душы, выглядваліся вочы ў чаканні вяртання сваіх хлопцаў. І найчасцей ліўся пранізлівы матчыны лямант і галашэнне, што ў чужой зямельцы любімыя сынкі паклалі свае галовы і косці. «А ці ж вас там хоць пахавалі, а дзе ж вашыя магілы, якіх не аблілі жаночыя слёзы?» — адвечныя пытанні жаночых сэрцаў. Прападалі апошнія жыццёвыя радасці, ночы станавіліся бяссоннымі, а дні — невыноснымі. Годнае пахаванне, адпяванне — прымета нашага чалавецтва. Права выкрычаць свой боль і выліць слёзы, углядаючыся апошні раз на сваіх блізкіх, правесці ў апошнюю дарогу, пахаваць на любімым могільніку — абавязак, які супакойвае ў будучыню. Адабраць і абдзерці сакральнасць пахованаў, са смерці зрабіць фабрычны канвеер — мэта і мара ўсіх дыктатур са стажыраваннасці па сённяшнія дні. Менавіта і дзеля гэтага камунізм і фашызм мільёнамі сваіх ахвяр стараўся забіць усялякую чалавечую рэфлексію, духоўнасць і годнасць, абдзерці з перажыванняў пасля страты родных.

Не забыць сваіх блізкіх, шанаваць памяць пра іх у наступных пакаленнях, адшукоўваць гадамі астанкі невядома дзе пахаваных сваякоў і сяброў у ваенных завірухах — гэта тысячагоддзямі вызначаны маральны азімут зямной прысутнасці. Таму нашыя прабабулі, бабулі, матулі і сёстры без аніякіх спецыяльных навук — проста адарваныя ад зямлі, ад сваіх загонаў — неаднойчы станавіліся, не па сваёй волі, трагічнымі Антыгонамі на роднай зямельцы. Калі глянуць і зазірнуць у сямейныя гісторыі, то, на жаль, у нашай беларускай мінуласці, класічнай, грэцкай трагедыі аж занадта. Хопіць прыгадаць толькі тое ўсё, што здарылася ў нядаўнім дваццатым стагоддзі — дзве сусветныя вайны, бежанства, бальшавіцкая рэвалюцыя, пасляваенны страх, змены межаў і палітычных сістэм. Хапіла б усім гэтым нададзяліць не адно жыццё, і не адно пакаленне. Яшчэ сёння мы сабе не ўяўляем да канца, які адбітак на нас адціснула страшнае, недалёкае мінулае. Як змяняецца беларускі менталітэт ці нават генатып. Жыць і зразумець сябе, свае шаленствы і мроі — да гэтага недастаткова звычайнага кавалка люстэрка. Чаму ж сёння, на схіле свайго жыцця так часта маці ці сёстры хаваюць сваіх сыноў і братоў, загінулых не на вайне, але ад згубнай гарэлкі ці наркатычнай сумесі. Навошта перажываць ізноў самае балючае, калі бацькі змушаны хаваць сваіх дзяцей. Тут патрэбнае слова і размова, а не страх і знявага.

**...нашыя прабабулі, бабулі, матулі і сёстры без аніякіх спецыяльных навук — проста адарваныя ад зямлі, ад сваіх загонаў — неаднойчы станавіліся, не па сваёй волі, трагічнымі Антыгонамі...**



Фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА

Словам і размовай як беларускай зброяй, усё сваё жыццё змагаўся Сакрат Яновіч. Увабраць у сябе ўсю бязлітаснасць гісторыі яго пакалення і бацькоў, на ўласныя вочы бачыць і адчуваць азвярэласць міжнацыянальнай нянавісці, апынуцца ў пастцы безнадзейнасці і палітычнай маніпуляцыі — гэта не толькі антычная трагедыя, але і галоўныя сюжэты шэкспіраўскіх драм.

Але ўсё бярэ з нечага пачатак. Менавіта ідэя Лявона Тарасэвіча, каб паставіць «Антыгону» на лабірынтным (быццам антычным) рынку ў Крынках, гэта задума, перад якой трэба схіліць галовы. Калі ўглядаўся я ў лабірынт сталёвых канструкцый сцэны і ўслухоўваўся ў лабірынты жыццёвых трагедый крынкаўскіх Антыгон, то складалася ўражанне, што за ўсім гэтым маўкліва сочыць і прыслухоўваецца сам Сакрат Яновіч. Трыялогі, дыялогі, маналогі — гэтым разам як шагалаўскі музыка на сярэбраным ездаку ўслухоўваеца ў песню, поўную чалавечага лёсу са сваёй даліны. І разам з усімі гледачамі ўдзельнічае ў найбольш экуменічнай паніхідзе па памерлых і загінуўшых, якой не было яшчэ ў гэтым кутку свету. Неспадзявана запоўніліся людзьмі і малітвай «кадыш» каўказская і слонімская сінагогі, а царкоўныя і касцельныя званы радасна абвясцілі, што праўда, памяць і малітва з крынкаўскіх загонаў цешаць Усявышняга. Вечная памяць!

Яўген ВАПА





# На ўсе сто

У той час, калі ўрады замежных краін спрачаюцца наконт зніжэння кошту шэнгенскай візы для беларусаў (бо лічаць, што ён для нас, бедненькіх, завялікі), родненькая беларуская ўлада таксама не спіць у шапку. І яна думае пра тых, хто перасякае мяжу ў пошуках лепшай долі і хлеба надзённага. А як жа ж, пра народ наша ўлада думае заўсёды. Улада ж народная! О-то ж!

Толькі бедненькімі яна сваіх грамадзян прынцыпова не прызнае. І ў той час, як чужыя еўрапейцы кошт у шэсцьдзесят еўра за візу на цэлы год лічаць задарагім, то наша родненькае кіраўніцтва мяркуе, што здзіраць са свайго грамадзяніна, што выбраўся ў Еўропу па закупкі, трэба ажно па сто долараў за адну паездку. Ну а за дзве, адпаведна, два разы па сто, і так далей. Арыфметыка зразумелая нават дашкольнікам, як і матывы.

А вось куды раней глядзелі чыноўнікі? Колькі год ужо беларусы штурмуюць замежныя крамы?! Колькі бабла можна было накасіць! А ім хоць бы хны. Нарэшце праблему з шопінгам заўважыў сам начальнік дзяржавы. І ўсяму беларускаму кіраўніцтву адразу стала ясненька як белы дзень, што беларусы нахабна вывозяць са сваёй дарагой радзімы спакушальную кучку грошай з партрэтамі амерыканскіх прэзідэнтаў на кожнай купюры. Ну што ты будзеш з імі рабіць, з тымі беларусамі?! Як дзеці!

Гэта ж, хіба што вельмі непатрыятычна вывозіць з Беларусі партрэты амерыканскіх прэзідэнтаў! Тым больш, што яны намаляваныя на грашах! Хоць і не на нашых. А найбольш абурае, што некаторыя несвядомыя грамадзяне нашай краіны лічаць, што яны маюць права распараджацца заробленымі імі грашамі як захочуць, купляць на іх што захочуць і дзе захочуць! Ну зусім сорам згубілі. Ні халеры не разумеюць.

Колькі разоў ім казалі, што ўсе склады сваім барахлом заваленыя, а яны пруцца па замежнае. Колькі грошыкаў выкінулі на рэкламныя плакаты „Купляй сваё", а ім чужое падавай. Колькі ідэолагаў нарабілі, па тэлебачанню трызвонілі, у газетах пісалі... Не даходзіць. Хоць ты кол на галаве чашы. Непарадак.

Усе з зайздрасцю паглядаюць, што нашае кіраўніцтва замежныя рэчы любіць. Ну дык гэта ж кіраўніцтва! Жыхары неба! Разбірацца ж трэба! Гэта ж слугі народныя! Яны ж пра ўвесь народ думаюць! А не так, як мы, смяротныя, толькі пра сябе.

Таму няма чаго на іх раўняцца. Рылам не выйшлі. У нас жа сацыяльна арыентаваная эканоміка. Ад кожнай сацыяльнай групы па здольнасцях, і кожнай па заслугах. Вось так! Кіраўніцтва заслужыла. Яно ўвесь час мазгуе, як у такіх складаных умовах, калі навокал нашай адзінай стабільнай тэрыторыі адны непрыяцелі, што дзяржаўны бюджэт папоўніць. А то еўрапейскія структуры крэдытаў не даюць, то сябры па адзінай мытнай прасторы падкінуць валюты не спяшаюцца. Як у такіх умовах выжыць?

Ну а зараз наша кіраўніцтва, відаць, прааналізавала, што там такое беларусы з-за мяжы возяць. Аказваецца, шмоткі! А ў нас дабра такога і свайго завалісь! У нас дэмакратыі бракуе, і праваў чалавека. А вось гэтага дэфіцыту, чамусьці, не вязуць з-за мяжы гандляры. Таму іх пакараць трэба. На пачатку ста доларамі. Справядліва?

Вось і атрымліваецца, што пытанне пра плату за выезд узнята своечасова. Бо і сацыяльную справядлівасць пакідаць без увагі таксама ж нельга! Чаму адны грамадзяне Рэспублікі Беларусь, якія хочуць, каб у нас было як у той Еўропе, сядзяць па астрогах і не могуць не то што ў замежны супермаркет зайсці, але часамі нават маленькую перадачу не ў стане атрымаць?! І іх еўрапейскія і праваабарончыя структуры вымушаныя называюць агульным словам палітвязні. А другія іх суайчыннікі, якіх нібыта і беларуская рэчаіснасць задавальняе, чамусьці ў тую Еўропу пруцца па танныя шмоткі і смачную жрачку! Несправядліва? Вось наша кіраўніцтва хіба і занепакоілася несправядлівасцю.

І калі грамадзяне самі не хочуць думаць пра справядлівасць, то мудрае кіраўніцтва і тут падумае за іх. І зараз хоць крыху сацыяльная справядлівасць збалансуецца. Калі нехта не можа выехаць, то і іншым не трэба. Ну а з цягам часу справядлівасць збалансуецца на ўсе сто. Як піць даць! Як сто долараў за праезд забраць!

**Віктар САЗОНАЎ**

# У чым правінілася малако?



Праз два месяцы пасля ўступлення ў сілу смеццевага закону большасць жыхароў Польшчы дэкларуе, што сартуе смецце. Па крайняй меры кажа так 89% грамадзян. З іх ліку аж 80 адсоткаў думае, што ведае, у які кантэйнер што выкідаць. У самы просты спосаб ведаюць як выкідваць бутэлькі. Амаль усе рэспандэнты, у якіх спыталіся аб тым, у які кантэйнер пакласці такі пакет, паказалі кантэйнер на шклатару. Аналагічным чынам у выпадку старых газет. Горш са шматслаёвымі ўпакоўкамі. З такімі, напрыклад, пакетамі з-пад малака. Знутры яны зроблены з паперы, усярэдзіне зацягнуты алюмініевай фольгай. Да якой катэгорыі адходаў кваліфікаваць іх — вось дылема.

Якое гэта хвалюючае пытанне паказвае прыклад маёй пажылой суседкі. Будучы сумленным чалавекам, паводле таго як Бог загадаў і гмінныя ўлады рэкамендавалі, яна асцярожна аддзяляе паперу ад алюмініевага корпуса пакета з-пад малака. Чаму так гэта вызначыла, не ведаю. І паколькі малако гэта яе штодзённы напой, затым работы ў яе шмат. У рэшце рэшт узбунтавалася. «У мяне ўжо пазногці ад іхняй сегрэгацыі баляць. І галава!» Бунт бабулі мае і іншыя наступствы. Малочная прамысловасць страціла ў яе асобе самага вернага спажыўца. Мая суседка вырашыла сваю смеццевую праблему спосабам Аляксандра Македонскага, які развязаў знакаміты гордзіеў вузел адным ударам мяча. Паклялася не піць малака!

На жаль, «смеццевая рэвалюцыя» ўспыхнула так, як бальшавіцкая. Штосьці закатлавалася, нешта замайталася і ў адно імгненне ўсё перавярнулася. Стары парадак паваліўся, з'явіўся новы, не вельмі зразумелы. Адным словам: хаос. Ніхто не ведае, ніхто нічога не тлумачыць. Смеццевая рэвалюцыя, як і ўсякая рэвалюцыя, заснаваная на догме. А догмы не абмяркоўваюцца. Яны такія, якія ёсць. Урад адрэагаваў на рэкамендацыю ЕС у справе экалагічнага распараджэння адходамі і абвясціў адпаведны закон, чыноўнікі з вялікай паспешнасцю сталі рэалізаваць урадавыя рэкамендацыі па сегрэгацыі смецця і... хопіць. А ты, грамадзянін, чухайся па сваёй галаве, нашто ўсё гэтае смеццевае нахабства, калі ў краіне толькі некалькі смеццесартавальных заводаў, а сучасных, экалагічна чыстых для прыроды заводаў спальвання смецця днём з агнём шукаць трэба. У Беластоку маюць толькі што такі стварыць. Праз пару гадоў. Куды дзяваюцца старанна адабраныя жыхарамі гарадоў і вёсак адходы? У тых жа смеццевых звалках, якія былі створаны шмат гадоў да смеццевай рэвалюцыі. У тую ж кучу. Толькі тое, што цяпер спакаваныя ў каляровыя мяшкі.

Праблема смецця гэта сур'ёзная праблема. Хопіць прагулка па любым лясочку. Кубкаў з-пад ёгуртаў і пластмасавых пакетаў пакінутых грыбнікамі больш, чым дрэў. Хутка ўтопімся ў адходнай цывілізацыі. Дзіўна, што чалавек перад ёй больш і больш бездапаможны. Тым не менш, нашая рафінаваная цывілізацыя, якой так ганарымся, не мусіць быць ворагам прыроды. Не мусіць быць яе антытэзісам. Гэта ўсяго толькі пытанне правільнай налады рэчаў. Але спачатку трэба ўбачыць гэта ў правільнай перспектыве. І я пагробся ў сваім уласным смеццевым вядры. Пластмасавая ўпакоўка, такія ж бутэлькі і кубкі ўзялі ў ім 4/5 прасторы. Астатняя частка гэта шкло і шматслаёвыя ўпакоўкі. І толькі жменька сапраўднага смярдзючага смецця, якое павінна трапіць на звалку. Усё астатняе можа быць апрацаваным. Выкарыстаным і перапрацаваным яшчэ другі раз. Але спачатку трэба стварыць ланцужок перапрацоўкі. Найважнейшым звяном з'яўляецца здаровы сэнс кожнага чалавека. Нядаўна я правёў просты эксперымент. Я папрасіў прадавачку, каб зважыла мне скрылёк вяндліны. Акрамя таго: кавалачак жоўтага сыру, кавалак ліверкі, кавалак селядца і некалькі вэнджаных сардзін. Усе гэтыя прадукты прадавачка ўпакавала ў фольгу і спакавала ў рэкламны мяшок. Дома развінуў я фольгу і вымераў агульную яе даўжыню. Было гэтага 2,44 метра! Уся купленая мною ежа змяшчалася ў маіх дзвюх далонях. Фольга плюс пакет, якія я скамячыў у форму шароў, былі ў значна большым аб'ёме. Чытач у гэтай кропцы мае права чакаць моцнай пуанты. Але я прызнаюся, што я тут бяссільны. Я не маю на гэта сваёй ідэі. Ну, хіба што прывяду тут прыклад суседкі, якая паклялася не піць малака. Толькі ў чым правінілася малако?

**Міраслаў ГРЫКА**



**Вачыма еўрапейца**

# Самагубнае скарачэнне

У 2014 годзе прадбачваецца яшчэ адзін крызіс дзяржаўных фінансаў у Польшчы. На самой справе гэта праця́г слабой формы ў гэтым плане. Міністр фінансаў Яцак Растоўскі, распрацоўваючы дзяржаўны бюджэт на наступны год, нядаўна загадаў зрабіць скарачэнні ў пасобных ведамствах. Часам вельмі рэзкія. Яны мелі б тычыцца таксама Міністэрства адміністрацыі і лічбавізацыі (МАіЛ), кіраванага Міхалам Боні, якое па сутнасці фінансуе арганізацыі нацыянальных і этнічных меншасцей, у тым ліку мерапрыемствы арганізаваныя імі, іх сядзібы, выдаваныя імі часопісы. Польская дзяржава абавязана аказваць падтрымку меншасцям у адпаведнасці з айчынным заканадаўствам (Закон аб нацыянальных і этнічных меншасцях і рэгіянальнай мове), і міжнароднымі канвенцыямі (напрыклад, Рамачная канвенцыя аб ахове нацыянальных меншасцей і Еўрапейская хартыя рэгіянальных і меншасных моў). Бюджэт гэтага года для ўсіх меншасных праектаў складае ўсяго 14,3 млн. злотых. Усяго таму, што ў маштабе дзяржбюджэту, а нават і МаіЛ, гэта колькасць мікраскапічная. У адпаведнасці з рэкамендацыяй міністра Растоўскага, скарачэнні мелі б скласці аж 20 працэнтаў гэтай сумы. Падчас «Трыялога» ў Крынках (6 верасня) у размове са мной Дабеслаў Жэмянеўскі, начальнік у дэпартаменце рэлігійных канфесій ды нацыянальных і этнічных меншасцей МАіЛ прызнаўся, што сумы, запланаваныя на наступны год з'ўляюцца — як ён назваў — ніжэйшыя, чым планаваныя сёлета. Падрабязнай інфармацыі аб сумах скарачэнняў не хацеў ён раскрываць, дадаўшы прытым, што міністр Боні ўжо ў сярэдзіне жніўня выступіў да міністра фінансаў за «павелічэнне прызначанага ліміту на задачы, звязаныя з рэалізацыяй Закону аб нацыянальных і этнічных меншасцях і рэгіянальнай мове». Успомніў пры нагодзе, што бюджэтныя прапановы ўрада мусіць адобрыць (або не) парламент, а потым яшчэ павінен прыняць іх (або не) прэзідэнт.

Тым часам, ад імя Сумеснай камісіі ўрада і меншасцей яе сустрашыня Рафал Бартэк напісаў ліст прэм'еру Дональду Туску, заклікаючы да верыфікацыі (адмены) запланаваных скарачэнняў і выказаў рашучы супраціў гэтым планам. Звярнуў у ім увагу, што і да гэтага часу сумы з бюджэту МаіЛ, вылучанага на меншасці, далёка не пакрывалі патрэб меншасных асяроддзяў. Звярнуў пры нагодзе ўвагу на неабходнасць фінансавай стабілізацыі іх арганізацый, якая прадастаўляла б магчымасці для доўгатэрміновага планавання, і неабходнасць павелічэння выдаткаў, панесеных дзяржавай для гэтай мэты. Абвешчаныя скарачэнні, як сказаў Рафал Бартэк, могуць быць адмаўленнем шанцаў, якія з'явіліся, каб Польшча была краінай імкнучайся да дасягнення заходніх стандартаў у пытанні апекі над меншасцямі. Акрамя таго, у кантэксце дыскусіі ў Польшчы над шырока паяўляючайся «мовай варожасці» — як успомніў — спроба зрабіць такое значнае скарачэнне была б дрэнным сігналам.

Анонсы рэзкіх бюджэтных абмежаванняў выклікалі абурэнне паасобных меншасных арганізацый, таксама ўваходзячых у Сумесную камісію, у тым ліку беларускіх. Сярод іх — старшыня Беларускага грамадска-культурнага таварыства Ян Сычэўскі, які аб планах скарачэнняў, прапанаваных міністрам Растоўскім, заявіў „І да гэтага часу, без гэтых скарачэнняў, фінансаванне культуры меншасцей дзяржавай было вельмі сімвалічнае".

Яўген Вапа, старшыня Беларускага саюза ў РП, да нядаўняга часу сябра Сумеснай камісіі, заявіў, між іншым: «Разумею неабходнасць ашчаднасці, але калі мы бачым, як расце бюракратыя, то на такія ашчаднасці коштам меншасцей цяжка пагадзіцца».

Скандалам гэтую задуму назваў дэпутат Яўген Чыквін, віцэ-старшыня парламенцкай камісіі па нацыянальных і этнічных меншасцях. А Алег Латышонак, старшыня Беларускага гістарычнага таварыства, адзначыў: «Два мільёны меркаваных ашчаднасцей гэта для дзяржаўнага бюджэту сляза. Канцэрт Мадонны на Нацыянальным стадыёне ў Варшаве субсідзіраваўся 5 мільёнамі злотых».

Я ўпэўнены (спадзяюся, што маю рацыю), што прэм'ер Туск заблакуе задуму міністра Растоўскага. І гэта справа не ў асабліва цёплым яго стаўленні да нацыянальных меншасцей у Польшчы, хоць гэтага не выключаю, а з меркаваннямі звязанымі з палітычнай тактыкай. Так ці інакш, напэўна, гэта ўжо адчула беластоцкая ГП і таксама заклікала прэм'ера адмовіцца ад гэтай ідэі, спасылаючыся на аргументы падобныя на выкладзеныя ў лісце Рафала Бартка.

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

**У Гайнаўцы і наваколлі жыве многа людзей пажылога ўзросту, якія патрабуюць лекарскай дапамогі. Наведваюць лекараў таксама людзі дапенсіённага ўзросту. Каб пазбегнуць многіх хвароб, неабходныя прафілактыка і здаровы лад жыцця. На прафілактыку ў дзяржбюджэце адводзяцца адносна невялікія сродкі, а да змены ладу жыцця складана пераканаць людзей. З думкай пра здароўе Гайнаўскае аддзяленне Праваслаўнага брацтва свсв. Кірылы і Мяфодзія наладзіла ў мінулым годзе фэст, які станоўча быў успрыняты гайнавянамі. Таму арганізатары вырашылі працягваць ініцыятыву.**

# У здаровым целе здаровы дух



У палатцы Самастойнага публічнага Комплексу аховы здароўя можна было праверыць ціск крыві і ўзровень цукру



Людзі падыходзілі да айца Гаўрыіла за парадамі

II Фэст здароўя «У здаровым целе здаровы дух» адбыўся 1 верасня ў гайнаўскім амфітэатры і парку. На мерапрыемства прыбылі не толькі старэйшыя асобы. Маладыя сужонствы з дзеткамі гулялі ў вялікім гарадку гульняў. У амфітэатры выступілі перадусім беларускія калектывы. Дэманстраваліся спосабы ратавання людзей, якія страцілі прытомнасць, і абароны перад злачынцамі. У парку былі расстаўлены палаткі, у якіх мералі ціск крыві, узровень цукру і рабілі іншыя прафілактычныя праверкі. Для донараў працаваў пункт пералівання крыві. Можна было купіць зёлкавыя гарбаткі, мёд, бальзамы, натуральныя прэпараты, а таксама здаровае харчаванне. Гайнаўскае выдавецтва «Братчык» прапанавала рэлігійную літаратуру для духоўнага падмацавання. Прадстаўнікі Непублічнай рэабілітацыйнай амбулаторыі «Кінетыка» рэкламавалі свае паслугі.

Аднак удзельнікі фэсту з вялікай нецярплівасцю чакалі архімандрыта Гаўрыіла, які жыве ў скіце на паўвостраве Кудак. Выступіў ён з дакладам аб лячэнні зёлкамі. З вялікай увагай сабраныя выслухалі даклад і пасля сталі індывідуальна падыходзіць да архімандрыта і расказваць не толькі пра свае хваробы, але і прасіць парады ў жыццёвых цяжкасцях і выпрабаваннях.

— Калі лячэнне зёлкамі адбываецца пад наглядам лекара і людзі трымаюцца яго ўказанняў, то яно амаль не пакідае адмоўных паслядоўнасцей у арганізме, якія застаюцца ад лячэння традыцыйнымі лякарствамі. Аднак, калі пацыент пераборшчыць і стане прымаць замнога зёлак, або іх неадказна памяшае, зёлкі могуць аказацца вельмі шкоднымі, — сказаў архімандрыт Гаўрыіл.

З архімандрытам прыехалі памочнікі, якія прадавалі гарбаткі, выпрадукаваныя суполкай «Эка-Натура» з Бельска-Падляшскага паводле рэцэптуры архімандрыта і з лагатыпам «Сакрэты айца Гаўрыіла». Можна было ў іх купіць мёд, сабраны на паўвостраве Кудак, і кніжку «Аптэка айца Гаўрыіла».

— У мяне хвароба, якую я ўжо многа часу не магу вылечыць, — заявіла адна з жанчын, якой архімандрыт Гаўрыіл параіў піць адпаведныя зёлкі і накіраваў у гайнаўскую аптэку «Aloes».




Манашкі Свята-Елізавецінскага жаночага манастыра ў Мінску прапанавалі зёлкі, мёд, бальзамы, настойкі і іншыя медыкаменты

Медсёстры з Самастойнага публічнага Комплексу аховы здароўя з Гайнаўкі і медсёстры з Гайнаўскай непублічнай амбулаторыі «Гаймед» вызначалі ціск крыві, узровень цукру і рабілі іншыя праверкі.

— У цябе кроў бушуе, як у маладога хлопца, — заявіў свайму сябру спадар Ян з Гайнаўкі, які сам таксама прайшоў праверкі.

— Зараз пануе мода на здаровы лад жыцця. Мы прапануем купляць здаровае харчаванне і лечыцца зёлкамі. Запрасілі мы працаўнікоў Станцыі хуткай дапамогі, каб яны прадэманстравалі як ратаваць непрытомных людзей. Важна не толькі паглядзець, як гэта правільна робіцца, але добра таксама самому паспрабаваць выконваць ратавальныя дзеянні на фантоме. Сёння прапануем донарам аддаваць кроў патрабуючым, бо і нам можа яна спатрэбіцца ў час аперацыі, няшчасных здарэнняў, — заявіла Ева Рыгаровіч, гайнаўская радная і віцэ-старшыня гайнаўскага аддзялення Праваслаўнага брацтва свсв. Кірыла і Мяфодзія, якое ладзіла мерапрыемства з дапамогай Гайнаўскага дома культуры. — Важная сёння таксама добрая гульня пры нашых песнях і музыцы, што мы і прапануем.

Асобы, якія праверылі ціск крыві, дакладней даведваліся пра стан свайго здароўя, рабілі пакупкі, заходзілі ў амфітэатр і слухалі музыку. У пачатку мерапрыемства выпаў невялікі дожджык і, як на пачатак верасня, было адносна холадна, але з цягам дня пацяплела і ў зацішным амфітэатры не адчувалася холаду. Частка публікі засталася ажно да канца выступаў, якія закончыліся на змярканні. Перад сабранымі ўдала выступілі калектывы Гайнаўскага дома культуры — «Рэха пушчы», «Студыя песні ГДК», калектывы народнага танца «Перапёлка» і сучаснага танца «Ілюзіён». Спявалі калектывы Бельскага дома культуры — хор песні і танца «Васілёчкі», калектыў «Куранты» і гурт «Ранок». Беларускі неапрацаваны фальклор запрэзентавала «Жэмэрва» са Студзівода. Выступы закончыў беластоцкі калектыў «Зорка». Дзеткі гулялі ў гарадку гульняў і ахвотна глядзелі і слухалі выканаўцаў на сцэне. Асабліва цікава былі ім танцы ў выкананні «Перапёлкі» (юныя танцоры выступілі з беларускімі народнымі танцамі і ў прыгожых беларускіх касцюмах) і «Ілюзіёна». Хлопцам цікава было паглядзець паказ гайнаўскіх дзюдаістаў, якія таксама прапагандуюць здаровы лад жыцця.

— Формула мінулагодняга фэсту здароўя спраўдзілася і таму ў падобным выглядзе ладзім сённяшні фэст. Людзі хочуць ведаць аб сваім здароўі і таму варта запрашаць прадстаўнікоў медыцынскіх устаноў, каб зрабілі падставовыя праверкі. Гэта дапаможа пазбегнуць неспадзяванай смерці і можа спрычыніцца да вылячэння хвароб. Важна, што сёння сабралася больш людзей, чым у мінулым годзе. Гэта сведчыць пра большае зацікаўленне нашай прапановай, — сказаў Адам Чурак, старшыня аддзялення Праваслаўнага брацтва свсв. Кірылы і Мяфодзія, якое дзейнічае пры Свята-Троіцкім саборы ў Гайнаўцы.

Далей ад амфітэатра манашкі Свята-Елізавецінскага жаночага манастыра ў Мінску прадавалі лячэбныя зёлкі, мёд, бальзамы, настойкі і іншыя медыкаменты. Прадстаўнікі гэтага манстыра часта прыязджаюць у Гайнаўку. Наведваюць яны прыпушчанскі горад у час Міжнароднага фестывалю царкоўнай музыкі і падчас вялікіх праваслаўных святкаванняў, калі прадаюць нашым вернікам духоўную літаратуру і кружэлкі з музыкай і фільмамі. На гэты раз спецыяльна прыбылі на фэст здароўя і прывезлі перадусім медыкаменты.

— У нас ёсць свае дыетэтыкі, якія састаўляюць наборы гарабатак і іншых зёлкавых медыкаментаў. Частку зёлак вырошчваем у сваіх агародах, у філіяльных частках манастыра, — сказала манахіня Сафія.

Прадстаўнікі амбулаторыі «Кінетыка» прапанавалі запісвацца на рэабілітацыйныя заняткі ў іх сядзібе або ў водным парку (крытым басейне) у Гайнаўцы.

— У нас часта лечацца асобы, у якіх недамаганні апорна-рухальнага апарату, якім баляць пазваночнікі або суставы. Мы лечым іх хваробы, карыстаючыся рэабілітацыйнымі прыладамі. Праводзім таксама лячэбныя працэдуры ў водным парку, — расказвалі працаўнікі «Кінетыкі».

Свае вырабы прадавалі ўдзельнікі пастаянных «Майстар-класаў па працатэрапіі». На адыходнае я паразмаўляў яшчэ з архімандрытам Гаўрылам, які нават у час змяркання адказваў на пытанні гайнавян. А са сцэны далей плылі беларускія песні.

**Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА**

## Выканаў павіннасць...

Папсаваўся мне халадзільнік. Амаль новенькі з выгляду, але апошнія чатыры гады я ім не карыстаўся і газ фрэон выпарыўся. Пазваніў я ў майстэрню ў Бельск-Падляшскі, якая знаходзіцца па вуліцы Міцкевіча, 35. Растлумачыў майстру ў чым праблема. „Калі трэба прыехаць?” — запытаў суразмоўца. „Можна і зараз”. Наконт кошту паслугі заявіў: „Папаўненне газам — 140 зл. і кошт даезду — 40 зл. Разам 180 зл.” Праз няпоўную гадзінку майстар быў на месцы. Дэталёва абгледзеў халадзільнік, затым сказаў: „Адключу сталёвыя трубкі ды пастаўлю фільтр. Павінен марозіць і сам выключацца”. І ўзяўся за працу. З рамонтам справіўся за пятнаццаць мінут, затым сказаў: „Уключу трэцюю ступень замарожвання”.

Здзелка абышлася мне ў 180 зл. Халадзільнік працаваў акуратна не больш чым тыдзень, затым зноў забарахліў. Дэфект той жа самы — мала, што неакуратна марозіў, дык не выключаўся і кругласутачна набіваў кілаваты. Папрасіў я калегу з Кляшчэляў, які разбіраецца ў рамонце халадзільнікаў. Сказаў проста — газ выпарваецца. Халадзільнік — на лом!

Паспрабаваў я скантактавацца з бельскім майстрам, які рамантаваў халадзільнік. На мой закід, што неакуратна выканаў паслугу, папракнуў мяне: „Я выканаў сваю павіннасць. Папоўніў халадзільнік газам. Прытым тлумачыў, што не даю гарантыі на выкананую паслугу”.

**(ус)**

## Дні Седльцаў

Перад мерыяй горада Седльцы павіс беларускі сцяг. Нагодай для гэтага стала свята горада, якое ў гэтым годзе суправаджалі XX Міжнародныя дні сельскагаспадарчай кансультацыі і XXI Фестываль фальклору. У мерапрыемствах прыняла ўдзел рэкордная колькасць наведвальнікаў, паколькі мяркуецца, што прыцягнулі яны каля ста тысяч чалавек. У ліку гасцей была дэлегацыя Ваўкавыскага раёна, які дружыць з Седльцамі. Складалі яе Аляксандр Нарута, Анатоль Мішкародны і Віктар Пляскач. Госці ў першую чаргу цікавіліся прэзентаванымі сельскагаспадарчымі машынамі. Наладзілі яны шэраг кантактаў з польскімі вытворцамі — як з вялікімі прадпрыемствамі, так і малымі заводамі.

Аляксандр Нарута сказаў «Ніве»: «Для нас важны пошук новых тэхналагічных і арганізацыйных вырашэнняў для павелічэння эфектыўнасці працы. Сельскагаспадарчы кірмаш выдатная для гэтага нагода. Стварае ён магчымасці наладжвання новых кантактаў. Наш прыезд у Седльцы гэта таксама доказ сувязей паміж беларусамі і палякамі. Хочам падтрымліваць як найлепшыя адносіны не толькі паміж самаўрадамі, але перш за ўсё нацыямі. Палякаў і беларусаў многае аб’ядноўвае, а мы хочам будаваць далейшыя пamосты супрацоўніцтва».

Сакратар Управы горада Седльцы Славамір Мархель паінфармаваў «Ніву», што сёлета ў Днях сельскагаспадарчай кансультацыі, прымеркаваных да Дня Седльцаў, прыняло ўдзел 500 экспанентаў і 250 артыстаў. Беларускія госці ў сваю чаргу выказалі надзею, што ў будучыні сваю прапанову прадставяць фірмы і прадпрыемствы з Рэспублікі Беларусь.

**Адам БОБРЫК**

# Свята бульбы з беларускай ноткай

13 верасня над вадаёмам у Рэпчычах адбылося мерапрыемства пад назвай «Пячэнне бульбы — канцэрт беларускіх калектываў». Арганізатарамі выступілі Гарадскі асяродак культуры, спорту і адпачынку ў Кляшчэлях ды Беларускае грамадска-культурнае таварыства. Канцэрт, які быў асноўнай часткай імпрэзы, быў запланаваны на 15 гадзіну. Але ў назначаны час не пачаўся па прычыне нешматлікай публікі. Цяжка сказаць, што на гэта паўплывала — пахмурнае халаднаватае надвор’е, ці праца ў полі пры ўборцы бульбы. За рэкламу ГАКСіА задбаў акуратна. Абвесткі аб беларускім фэсце намнога раней былі распаўсюджаны па салэцтвах Кляшчэлеўскай і Чаромхаўскай гмін. БГКТ забяспечыла папулярныя нашыя калектывы — «Рассяпаны Гарадок», «Сказку», «Калінку», «Прымакі» і народны ансамбль «Гародніца» з Беларусі. Выканаўцы чакалі публіку...



«Гародніца»



Ахвотных пакаштаваць стравы было шмат

Тым часам працаўнікі цэнтра культуры раскладалі вогнішча. Аматары рыбалкі змагаліся ў конкурсе, у якім удзельнічала трох вудзільшчыкаў з Чаромхі-Станцыі. Станоўчых вынікаў яны не дабіліся, але ганаровыя граматы і падарункі за ўдзел атрымалі.

Канцэрт пачаўся ў 15:30 без лішніх прамоў. Вядучая на беларускай мове канцэрт Таіса Барысюк найперш выклікала «Сказку». Затым выступілі «Рассяпаны Гарадок» і «Калінка». Варта адзначыць, што рэпертуар выступаючых гуртоў быў даволі багаты і разнародны ды ўспрымаўся публікай бурнымі апладысментамі. Несліся песні над вадаёмам ды адбіваліся рэхам ад лесу, затым разыходзіліся з ветрам па наваколлі. А публікі прыбывала. Канцэрт «Гародніцы» адбыўся ўжо пры камплекце гледачоў.

— На Беларусі выступае шмат беларускамоўных калектываў — сказаў мне мастацкі кіраўнік ансамбля «Гародніца» Алесь Лойка. — Мы змяшчаем у сваім рэпертуары даўнейшыя вясковыя песні, змешаныя з гарадскімі, бо маладыя дзяўчаты па-сучаснаму ўспрымаюць даўніну. Але ў сутнасці мы прытрымліваемся прынцыпу: свой рэпертуар, на сваёй зямлі, свае песні...

Ансамбль «Гародніца» існуе ад 1988 года і лічыць 21 асобу. Сярэдні ўзрост членаў гурту — 32 гады. Не ўпершыню гасцяваў на Падляшшы. І кожны раз, як зараз над Рэпчыцкім вадаёмам, быў авацыйна ўспрыняты публікай.

Больш за трохгадзінны канцэрт завяршылі «Прымакі». Традыцыйна віталі яны публіку песняй «Пажаданне прымакоў», а завяршалі папулярнай «Смэрэкай». Былі і бісы, і рэкамендацыя купляць іхнія кампакт-дыскі.

— Вы станеце бяднейшымі, — жартаваў «прымак-чудак» Юрка Астапчук, — мы — багацейшымі.

У час канцэрта быў аб’яўлены кулінарны конкурс. Адмысловае журы склалі бурмістр Кляшчэль Ірэна Негярэвіч, сакратар ГП БГКТ Валянціна Ласкевіч і дырэктар ГАКСіА Лявон Алексяюк. Стравы рыхтавалі мясцовыя гаспадыні. Першае месца ўзяла Міраслава Саўчук за бульбяную бабку, грыбную запяканку і бульбяны рулет з грыбамі, за што ва ўзнагароду атрымала патэльню, рукавіцу і гарбату. Чарговыя месцы ўзялі Галіна Ляўчук — за грэцкую кішку (узнагарода: тэрмаўстойлівая пасуда, рукавіца і гарбата), Барбара Нэсцярук — за бульбяныя катлеты, запяканку з бульбы ды бульбяную кішку (камплект кубкаў, рукавіца і гарбата). За сімвалічную залатоўку можна было пакаштаваць смачных страў, прытым кожны пакупнік ставаў удзельнікам жараб’ёўкі. Ахвотных было шмат.

У час лёсавання шчаслівым пакупніком аказаўся Янка Тафілюк з Мілейчыч, які атрымаў падарунак. Быў таксама конкурс для дзетак на найпрыгажэйшы ўбор. Ацэньвала публіка апладысментамі. Перамагла Магда. Ласункі ў падарунак атрымалі ўсе ўдзельнікі дзіцячага конкурсу. А на вогнішчы пякліся бульба. Застолле прайшло над берагам вадаёма. Затым пачалася забава, якая доўжылася да 23 гадзіны. Іграў гурт «Прагрэс» з Гайнаўкі. Я пакідаў вясёлую кампанію каля 20-й гадзіны. Спадарожнічалі мне ноткі беларускіх народных песень, якія несліся ад вогнішча з пахам печанай бульбы.

**Тэкст і фота Уладзіміра СІДАРУКА**

## ЗАПРАШАЕМ!

### Кацярына Сянкевіч у Нарве

*У чацвер 19 верасня 2013 г. у 17 гадзін у Гміннай бібліятэцы ў Нарве пачнуцца выстава „Усходы і захады” і аўтарскі вечар маладой мастачкі і паэтэсы, жыхаркі Граматнага. Кацярына Сянкевіч нарадзілася ў Гайнаўцы ў 1991 г. Сяброўка Беларускага літаратурнага аб’яднання „Белавежа”. Выдала томік лірыкі „Дачка ружы” ў 2001 г., у тым жа годзе кончыла Мастацкі ліцэй у Супраслі, абараніла дыплом па мастацкай тканіне і стала студэнткай мастацтва ў Люблінскім універсітэце. Друкавалася ў „Ніве”, „Тэрмапілах”, „Літаратурнай Беларусі”, „Дзеяслове” і „Верасні”.*

# Натхнёныя драўляным дойлідствам Падляшша

**— Мы хацелі, каб выбраныя ўзоры ўяўлялі розныя часткі Падляшша, — сказаў Лукаш Шчапановіч. — Спалучылі мы традыцыйныя элементы з сучаснымі формамі арнаменту, якія вядуць дыялог паміж традыцыяй і сучаснасцю. Самыя лепшыя ўпрыгожанні, у прыватнасці, у сёлах Плютычы, Канюкі, Войшкі. Багатыя аздабленні ў верхняй частцы дома сведчылі аб сям'і, яе сацыяльным становішчы. Найбольш характэрныя аздабленні маюць пэўныя знакі і арнаменты, уключаючыя інфармацыю аб багацці і статусе гаспадара, выказваюць таксама этнічную і рэлігійную прыналежнасць людзей...**

У асушанай сажалцы каля палаца Браніцкіх ад 8 верасня можна захапляцца гарадскім павільёнам, які ў сучаснай форме знаёміць з аздабленнямі характэрнымі для архітэктуры Падляшша. Праект рэалізавалі маладыя архітэктары — Агнешка Кацпшак і Лукаш Шчапановіч, якія звярнуліся да ўзораў такіх скульптараў як Уладзімір Наумюк з Канюк.

Пленэрны павільён, які да канца кастрычніка будзе ўпрыгожваць дол ад сажалкі ў ніжнім агародзе рэзідэнцыі Браніцкіх, гэта свайго роду даніна народным мастакам і аповед аб афармленні жылых будынкаў у рэгіёне. Гэта інспіравала маладых архітэктараў, якія пастаянна працуюць за мяжой. Праект быў рэалізаваны ў рамках прэзідэнцкай стыпендыі „Маладыя крэатары". У апошнія тыдні працавалі яны пільна над павільёнам на цеслярскім заводзе і на месцы экспазіцыі ў парку. Раней уклалі ў яго вялікую канцэптуальную работу, з'ездзіўшы падляшскія вёскі, сустракаючыся з разьбярамі і атрымліваючы ад іх мадэлі, якія былі выкарыстаны ва ўсталёўцы. Арт-інсталяцыяй апякуецца мастацкая галерэя „Арсенал".

На адкрыцці ў нядзелю 8 верасня аб'ект з цікавым дызайнам прыцягнуў вялікую ўвагу гледачоў. Яго форма аснаваная на трыкутніках — са спасылкай на шчыты драўляных дамоў і арак, звязаных з татарскай мячэццю. Кожная з пяці частак зверху ператканая ўзорамі-шаблонамі, якія родам з канкрэтных мясцовасцей. Ёсць узоры аздабляючыя ліштвы і карнізы з вёсак Дабрывада, Москаўцы, Пуціскі. Іншыя ўпрыгожанні дамоў у Рыбалах, яшчэ іншыя — тыповыя для заходняга Падляшша — можна іх убачыць на дамах у Крушэве-Бродаве ў гміне Сакол. Арнамент ва ўсходняй частцы рэгіёна запазычаны з Тапалян Міхалоўскай гміны, а іншы — з хаты ў Рудаўцы Янаўскай гміны. Кожная сцяна мае тэкставае апісанне, так што павільён не толькі цікавы фармальна, але і сам ён па сабе выстава. У яго і іншыя каштоўнасці — пахне драўнінай, і адначасова гуляе святлацэнем.

— Што тычыцца ўпрыгожанняў драўляных дамоў, існуе шэраг цікавых публікацый, і мы хацелі, каб прыгадаць аб іх больш прамым шляхам, даючы такую працу ў парк, — тлумачыла на адкрыцці Агнешка Кацпшак. — На аснове апублікаваных вынікаў даследаванняў арнаменту драўлянага дойлідства ў рэгіёне Падляшша можна класіфікаваць некаторыя дэкаратыўныя элементы і прызначыць іх па канкрэтных значэннях — сімвал жыцця: дрэва і канюшына; сонечнага божышча: алмаз, круг; сімвал шчасця і дабрабыту: дыяментавы дыск, салярныя знакі, сіметрычныя геаметрычныя фігуры, квадраты, кругі, брыльянты; цыкл жыцця ў прыродзе: зубчастыя стужкі, кругі, дыяменты. Рэгіён, размешчаны паміж Заблудавам, Бельскам-Падляшскім і Нарвай характарызуецца самым вялікім багаццем дэкаратыўных матываў, майстэрствам і карункавасцю выканання. Большасць злучэнняў характарызуецца геаметрычнымі формамі і раслінамі, складаецца з малых і ажурных сістэм.



Уладзімір Наумюк



Выкарыстаны ўзоры майстроў: Рыгора Максімюка з Катлоў, Фёдара Семенюка з Райска, Максіма і Самсона з Рыбалаў, Іллі з Канюк, Івана Дамброўскага з Храбалоў, Аляксея Паўлючука з Гацькоў, Мікалая Філіповіча з Плютыч, Яна Кананчука з Сацоў, Аляксанра Баравіка з Гайдукоўшчыны, Аляксандра Максімюка, Амяльяна і Ціхана з Бялок, Дзмітра Сяргеюка, Яўстафія Тамашука, Аляксандра Васілюка, Уладзіміра Максімчука з Трасцянкі, Аляксея Тамашука з Целушок, Івана Ілляшука з Катоўкі, Мікалая Нікалаюка з Локніцы, Аляксандра Садоўскага з Рыбакоў, Міхала Грыгарука і Яна Анапюка з Плютыч, Аляксея Рызынскага і Міхала Грыгарчука з Войшак, Якуба Астапчука, Яна Петручука і Андрэя Ефімюка з Чыжоў, Юзафа Крушэўскага з Крушэва-Бродава і Уладзіміра Наумюка з Канюк.

Паявіўся на адкрыцці павільёна адзін з першых творцаў выкарыстаных форм — Уладзімір Наумюк:

— Я вельмі рады і вельмі здзіўлены, што магу на гэта глядзець. Вялікі дзякуй пані Агнешцы, якая адкрыла старую кнігу падляшскай культуры і ўзяла яе ў новую апраўу. У нашай вёсцы Канюкі такі дызайн па-ранейшаму застаўся. Можна да нас прыехаць і паглядзець. Я як цясляр і скульптар працую ад моманту, калі мне было 16 гадоў. Таму дзякую за памяць і такое добразычлівае распаўсюджванне нашай спадчыны, — дзякаваў з хваляваннем Уладзімір Наумюк, якога тры сыны і ўнучка таксама займаюцца разьбой і дызайнам. — Дэкаратыўныя дэталі былі створаны на аснове шаблонаў. Кожны з выканаўцаў упрыгожанняў мае свой уласны набор шаблонаў, на аснове контуру адрысоўваў упрыгажэнні алоўкам на борце. Бібліятэка дызайна цесляра змяшчае дзясяткі шаблонаў сабраных за гады. Нягледзячы на выкарыстанне падобных шаблонаў, няма ў цесляроў двух аднолькава аздобленых будынкаў, нават калі яны былі зроблены адным і тым жа майстрам.

Творцы павільёна хацелі б, каб пасля экспазіцыі застаўся ён на Падляшшы і паказвалі яго надалей.

**Тэкст і фота Міры ЛУКШЫ**

# Збірайце лекавыя зёлкі

Зараз шматлікія жыхары вёсак у Нараўчанскай гміне (Гайнаўскі павет) збіраюць зёлкі. На іх можна зарабляць. Дастаткова хацець, мець крыху ведаў пра лекавыя расліны і пра спосабы іх сушэння. Надвор'е яшчэ спрыяючае для гэтага. У лясах Белавежскай пушчы ды ў далінах рэк Нарвы, Нараўкі і Баброўкі лекавых раслін процьма.

Наведаў я пункты скупкі лекавых зёлак у Старым Ляўкове і ў Плянце.

— Сёлета на пункт скупкі ў Старым Ляўкове збіральнікі прыносяць найбольш лісця бярозы, крапівы, падбелу і адуванчыка ды зелля і карэння крапівы, — кажа Ірэна Ігнацюк. — Вязуць з Лешукоў і са Старога Ляўкова. Летам прынеслі шмат адпаведна высушанага ліпавага цвету.

У Плянце вядучая пункт скупкі Галіна Бірыцкая прыняла шмат кілаграмаў цвету стакроткі, язьміну і парыла (тавулы), кары вярбы, лісця брусніцы, карэння пяцёрніка (дуброўкі) і аеру, зелля палявога хвошчу і іншых раслін. Яшчэ цяпер некаторыя збіральнікі з Ахрымоў, Новага Ляўкова, Старога Ляўкова, Нараўкі, Плянты і Свінарояў прывозяць лісце бярозы (яно цяпер па 3 зл. за кілаграм, вясною было даражэй).

За кілаграм кветак стакроткі можна зарабіць 28 злотых, ліпы — 25 зл., тавулы — 16,50 зл. і мальвы — 30 зл., за лісточкі амялы 7,50 зл. і аеру — 6 зл., сухога карэння аеру — 15 зл. і жывакоста — 6 зл., зелле святаянніку — 4 зл., крапівы — 2 зл., палявога хвошчу і дрысёну — па 3,50 зл. ды кары вярбы — 2 зл.

Калі збярэм вялікую колькасць лекавых раслін, тады на нашым рынку будзе больш зёлкавых лякарстваў, смакавітых напіткаў, касметыкі ды спецый для страў.

# Горад без прыбіральні

У Гайнаўку штодзень прыязджае шмат людзей, у тым ліку і турыстаў. Прыязджаюць на сваіх машынах, аўтобусамі ПКС і прыватных фірм. А прыбіральні ў горадзе здаўна няма. Гэта не дробязная праблема: што рабіць, куды дзецца, калі моцна прышпіліць? Найгорш калі гэта спатрэбіцца ў суботу або ў нядзелю. Тады то бяда. Вядома, установы закрыты. Закрылі нават вакзал ПКП і ПКС.

Мінакі раяць збегаць у гарадскі парк па вуліцы Белавежскай, пад кладку над пуцямі ля вакзала. А там што, людзі не прагульваюцца? Мо тады лепш у недалёкі лес за горадам. У такой сітуацыі... у ім адзіны паратунак.

Улады Гайнаўкі, пара ўжо паклапаціцца пра прыбіральню ў горадзе. Можа і ў парку? Тут будзе зручней. Задбайце пра прыезджых.

Бурмістр столькі гаворыць, каб у Гайнаўцы затрымаць айчынных і замежных турыстаў. А як іх затрымаць у горадзе, калі ў святочныя і вольныя ад працы дні за пільнай патрэбай неабходна ў лес збегаць...

Турысты падаюцца ў Белавежу. Гайнаўка іх не прываблівае. Тут няма кавярняў. А былі. У цэнтры горада па вуліцы 3 Мая быў бар, у якім можна было з'есці перш-наперш смачныя дранікі і выпіць каву. Была ў ім прыбіральня, але сёлета бар закрылі.

**Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі

# Незвычайныя прыгоды з беларускай мовай!

У пачатку школьнага навучальнага года заўсёды складаем планы і абяцанні. Многія з іх звязаны з урокамі беларускай мовы. Каб нашыя дзеянні выспелі ў поспех, не трэба думаць пра прызы і феерверкі, толькі сумленна працаваць. Ваш прыклад можа захапіць сяброў і натхніць іх да новых задум і працы. Вось неадночы мы пісалі пра сяброў з беластоцкай „чацвёркі". Там амаль усе навучэнцы беларускай мовы ходзяць на тэатральныя і музычныя заняткі. У гэтым навучальным годзе будзе там працаваць аж пяць тэатральных груп. Вядучая тэатр Аліна Ваўранюк запрашае да ўдзелу прафесійных акцёраў з беластоцкага тэатра. У іх такія культавыя пастаноўкі, як „Ой, даўно-даўно", „Цацачная крама", „Тутэйшыя", „Жывінкі з глыбінкі". З першай пастаноўкай нашы сябры аб'ехалі Падляшша, Варшаву і трапілі нават у Амерыку — усюды выклікаючы захапленне. Таму варта запрасіць іх у сваю школу, каб натхніцца добрым прыкладам...

У іншай беластоцкай школе, свсв. Кірылы і Мяфодзія, захапляюцца беларускай мовай і літаратурай. Ужо з трэцяга класа дзеці рыхтуюцца да прадметнага конкурсу і нацыянальнай дыктоўкі. Дзецям падабаецца ўсё, што прапануе настаўніца на ўроках беларускай мовы. У Іаанны Марко асобны сшытак, дзе пазначаны балы за актыўнасць.

— Тыя, што набяруць самую вялікую колькасць балаў, паедуць на экскурсію ў Беларусь, — адзначае настаўніца. — Бо на экскурсію заўсёды больш ахвотных, чым месц.

Сярод нашых верных і творчых чытачоў — вучні з Нараўкі. Што цікава — амаль усе дзеці і гімназісты пішуць вершы. Пашана да пісанага слова праяўляецца яшчэ ў вельмі канкрэтны спосаб. У кожны чацвер, зранку, там выглядаюць „Ніву", каб папрацаваць з „Зоркай".

Вось у сённяшнім нумары мы прапануем вершы Мілены Яцкевіч з Нараўкі. Шчырыя і праўдзівыя — як жыццё. І самае важнае — яны па-беларуску.

Як кожны год заахвочваем вас падпісацца на „Зорку". Для вас мы прыдумалі процьму сюрпрызаў і цікавых матэрыялаў. Тут вы не толькі прачытаеце пра поспехі сяброў з іншых школ, але і самі можаце стаць нашымі сааўтарамі, як Віка і Габрыся з праваслаўнай школы. Такой магчымасці не дае ніводная газета ў нашым рэгіёне.

**ЗОРКА**

Вучні V класа Праваслаўнай школы

---

Мілена ЯЦКЕВІЧ

## Хворая дзяўчынка

Дзяўчынка скакала, скакала,
ножку сабе зламала,
ляжыць у ложку
і плача патрошку.
Дзяўчынка не можа хадзіць.
Мама ёй памагае,
з пасцелі здымае.
Як цяжка ёй жыць!
Як ножка баліць!

## Птушкі

Птушкі перад зімою адлятаюць,
бо ў цёплых краях ежу маюць.
Калі снег засыпле палі і лугі,
цяжка знайсці што-небудзь ім.
Птушкі вернуцца вясною
і весела нас прывітаюць
і нам радасна будзе на душы,
што да нас яны прылятаюць
і весела нам спяваюць.

## Грошы

Грош да граша
мы збіраем
і дзецям памагаем.
Яны цешацца, смяюцца,
што аб іх мы памятаем
ды ахвотна памагаем.
Яны ведаюць, што сябры
аб іх не забываюць
і з ахвотай памагаюць.

---




Сымон Наумюк на гарадскую беластоцкую драўляную выставу-ўстаноўку прыйшоў з сястрой Элізай, старэйшай ад яго на васемнаццаць гадоў. Як цікава мець такую вялікую сястру, прытым мастачку! А яшчэ цікавей — сёння выступіў ягоны дзедка, Уладзімір Наумюк, вядомы ў свеце разьбяр, з вёскі Канюкі. У хаце ў Канюках стаяць драўляныя людзі, якія з драўніны выразаў дзед Уладзімір. І тата Сымонкі, Міраслаў, таксама разьбяр, і дзядзькі Лявон і Пятро. Дзядзькі займаюцца таксама кансервацыяй помнікаў даўніны. А Эліза піша ў царкве фрэскі. Дзедка кажа: наша культура. А сённяшняя выстава — магутная: на вялікіх, высокіх арках вісяцца ўзоры, якія можна ўбачыць на аздобах вясковых дамоў. Калі глядзець здалёк — бачацца купалы цэркваў...

— Прыгожа! — задзірае галаву ўверх малеча. — І я так хацеў бы...

Дзед і тата ўжо „прывучаюць" найменшага Наумюка „да драўніны". Штотыдзень ездзіць ён у Канюкі да дзеда Уладзіміра і бабулі Ганны. А там можна ўбачыць і даўнюю вёску, яшчэ з дзедавага маленства — у драўляных сялянах-земляробах.

— Ужо крышку і я разьбярыў, — прызнаецца Сымонка.

Тэкст і фота Міры ЛУКШЫ

---

# Вершы Віктара Шведа

## Конныя гонкі

У конных гонках перамог
Конь хуткі, як агонь.
— Гэта заслуга конскіх ног? —
Пытае другі конь.

Каб не на адзін капыл,
Скажы ты мне тады,
Колькі ты маеш сапраўды
Так моцных конскіх сіл?

## Тэлефонная размова

Вона любіць размаўляць,
Мае трэніроўку,
Канца размовы не відаць,
Замучыла сяброўку.

І па размове наўздагон
Запытвае Івону:
— Скажы, які твой тэлефон?
— Мой тэлефон чырвоны.

# Любіць беларускую мову!

У праваслаўнай школе ў Беластоку пачала працаваць гімназія. Амаль усе гімназісты запісаліся на беларускую мову...

Аднак рэдакцыя «Зоркі» завітала найперш у пяты клас, каб павіншаваць аўтарак «Трох бяроз»: Віку Кардзюкевіч і Габрыелю Торку. Дзяўчынкі напісалі казку ў час канікул, бо яны вельмі сумавалі па ўроках беларускай мовы!

— А сёння ў нас урок граматыкі! — адзначыла настаўніца Іаанна Марко.

— Вы, здаецца, любіце ўрокі граматыкі?

— ТААААAК! — заявілі дзеці.

У доказ любові пайшлі канкрэтныя абяцанні. Усе пятнаццаць пяцікласнікаў хочуць прыняць удзел у нацыянальнай дыктоўцы па беларускай мове. Усе хочуць таксама прыступіць да прадметнага конкурсу. А вядома, каб падняць такі выклік, мусова любіць і ведаць граматыку. Любоў да ўрокаў выспела ў першых літаратурных спробах вучняў. Да творчасці Віку натхнілі Сустрэчы «Зоркі». З той пары Веранічка вядзе свой дзённік, дзе апісанае ўсё на свеце — школьная паездка ў Беларусь, вакацыі ў Францыі, сваякі з Грабаўкі, поспех малодшай сястры Зузі і сваёй настаўніцы. Мы даведаліся, што дзяўчынка марыць стаць беларускай журналісткай! Віка хоча заснаваць новы беларускі часопіс — такі, каб быў найлепшы ў свеце!

Мы спыталіся ў аўтарак «Трох бяроз» пра тайны і сакрэты іх творчасці. Габрыеля і Віка сустракаліся на канікулах у хаце. Яны пісалі асобна, а пасля спалучалі найфайнейшыя думкі ў адно апавяданне. А адкуль іх думкі?

— Не ведаем, — прызналіся.

Але мы здагадаліся па імёнах герaінь — Купалінкі, Беларусачкі, Ночкі...

Вось пад канец сустрэчы нашы сябры праспявалі поўную версію беларускай песні «Купалінка».

— У нас ужо завялася такая традыцыя, — кажа Іаанна Марко, — што кожны ўрок мы завяршаем беларускай песняй.







— А якія ў вас песні?

— Апрача „Купалінкі" спявалі «Тры чарапахі». А ў апошні час развучаем «Не быць скотам» — на словы Янкі Купалы. Гэта з рэпертуару гурту «Ляпіс Трубяцкой»...

Мы павіншавалі настаўніцу з медалём ад прэзідэнта Беластока. Разам і Зузю Кардзюкевіч, аўтарку цудоўных малюнкаў, якія друкаваліся ў «Зорцы» на працягу канікул. Зузя атрымала залаты медаль ад прэзідэнта як наймалодшая лаўрэатка прадметнага конкурсу. Ганаровыя ўзнагароды атрымалі яны за беларускую мову.

**ЗОРКА**

**Фота Ганны КАНДРАЦЮК**

# Тры бярозы

*(пачатак у № 34)*

Калі зямлю ахінула ноч, бярозкі пачалі хістацца і спяваць сумныя беларускія песні. Яны заўсёды спяваюць згодным хорыкам. Але аднойчы Купалінка забылася слоў. Папраўдзе, іх песні былі малітвай да маціпрыроды, каб зноў стаць дзяўчатамі. Зараз, калі адна сястра забылася словы, яны адчулі, што страцілі надзею. Бедныя бярозы!

Беларусачка накрычала на сястру:

— Дурачка! Праз цябе наша малітва не будзе пачута. Я і Ночка хочам да мужоў! А ты што — не хочаш да свайго?!

— Я таксама хачу! Прабачце, сястрычкі, — сказала вінавата Купалінка, — так, проста не змагла. Прабачце.

У час, калі Беларусачка дакарала сястру, Ночка далей спявала песню-малітву. Яна не здавалася. І не хацела нікога ў нічым вінаваціць. Маці-прырода ўсё гэта бачыла. Яна дацаніла настойлівасць бярозкі. Падумалападумала. А пасля рашыла. Беларусачка і Купалінка не верылі вачам, калі пабачылі як іх сястра зноў перамянілася ў дзяўчыну.

— Дарагія сёстры, — сказала Ночка, — гэта кара за вашу сварку. Навошта вам было з сабой спрачацца?! А ты, Купалінка, магла б далей спяваць са мной, а не кідацца ў сварку...

Ночка вярнулася ў вёску да свайго мужа і нарадзіла яму трое дзетак. Яны называліся Беларусачка, Купалінка і Ночка-юнiёрка. Часам яны прыходзілі над Дзвіну да бяроз і сядалі ў іх цяні. Яны ўсе згодным хорам спявалі беларускія песні, а дрэвы, здавалася, ім дапамагалі.

**Вераніка КАРДЗЮКЕВІЧ**
**і Габрыеля ТОРКА — вучаніцы**
**Непублічнай школы свсв. Кірылы**
**і Мяфодзія ў Беластоку.**

# Касмічная загадка!!!

**Адказы дашліце ў «Зорку» да 30 верасня 2013 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.**

**Брат сястру пабачыць рад,**
**Але строгі ў іх расклад:**
**Прачынаецца сястра —**
**Брату спаць ісці пара.**

# Польска-беларуская крыжаванка № 38

Запоўніце клеткі беларускімі словамі паводле значэнняў. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 34:**

Вока, пуп, том, рэ, паляна, матыль, каса, твор, шахматы. Планета, ну, кош, Тамара, голас, мята, нырка, караль, ты.

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Sukces | | Ach! | | Braci-szek | | Mały | Szyfr | |
| Wybór / Mag | | | | | | | | |
| | | | Mech / Wymiana | | Lek | Ar | | |
| | | Młody / Kruk | | | | | | |
| | Wiatr / Kosa | | | | | | No | |
| Konik / Barak | | | | | | Bór | | Tamten |
| | | | | | Bas / But | | | |
| | | | Osa / Sanatorium | | | | | |
| | | | | | | | | |



Каноны канонамі, а паказацца перад народам мусова; кадр з мінулагодняга Спаса на Грабарцы

# Памежжа

Пазваніў тэлефон. Усхваляваны жаночы голас у трубцы паінфармаваў, што яго ўладальніца выступіць на адвячорку ў тэлевіктарыне і праспявае там рэлігійную песню.

Тэлевіктарына гэтая ідзе па нашым тэлебачанні амаль няспынна, здаецца штодзённа, і кранае яна галоўным чынам яркаколернай эстраднай музыкі.

Акурат не ў мяне была цэліла ўсхваляваная інфарматарка, але ж вестка трапіла мне і нядобра было паставіцца абыякава да так даверлівай мне асобы. У анансаваны час уключыў я тэлевізар і сапраўды паказалася там тройка спаборнікаў, а ў іх ліку і носьбітка анансаванага мне імя. Жанчына паказалася даволі сімпатычнай, як бываюць сімпатычныя жанчыны сярэдняга ўзросту ў дзень нашага тутэйшага прыхадскога свята. І зараз у пачатку перадачы мадэратар прадставіў маю інфарматарку як сяброўку царкоўнага хору і паведаміў, што праспявае яна нумар са свайго рэпертуару. Праспявала яна „Трысвятое” — *Святый Боже, святый крепкий, святый безсмертный, помилуй нас*.

Мадэратар выказаў здагадку, што гэта было *po rosyjsku* і спявачка пацвердзіла, што было ***po rosyjsku***. Шчаслівенька, скора запрасіўшая мяне перад блакітны экран змагарка за віктарынныя балы выбыла са спаборніцтва і я з палёгкай выключыў тэлевізар. Папулярныя цяперашнія тэлеперадачы намагаюцца эпаціраваць гледачоў экспазіцыяй „мяса” (***mięso***, паводле слоўніка — ***miękka część ludzkiego ciała***), а яно мне ўжо пераелася. Бо ж, так мне здаецца, што вялікую частку цяперашняй тэлевізійнай прапановы складае менавіта такое „тэлевізійнае мяса”, якое б можна было па-нямецку, па аналогіі з агульна вядомым акрэсленнем ***Kanonenfutter*** (гарматнае мяса), назваць ***Fernsehenfutter***.

Ці „Трысвятое” *po rosyjsku*? Здаецца мне, што не надта. Фраза ўзнікла ў 438 або ў 439 годзе ў Канстанцінопалі. Тады горад наведала страшнае землетрасенне. Паводле адмысловай легенды, адзін тамашні хлопчык быў узняты ў неба, там пачуў гэтую фразу ў выкананні анёльскага хору, а вярнуўшыся на зямлю прасіў усхваляваны народ таксама праспяваць яе; і тут жа бедства спынілася. Халкідонскі сабор у 451 годзе ўвёў „Трысвятое” ў чын літургіі...

У той час канстанцінопальцы не карысталіся расійкай мовай, яны гаварылі па-грэчаску і на гэтай мове фраза ўвайшла ў літургію. У нашых цэрквах літургія правіцца на царкоўнаславянскай мове, на якую была яна перакладзена асветнікамі славян, братамі Кірылам і Мяфодзіем, македонцамі родам з Салуні, цяперашніх Салонік у межах Грэцыі... Магчыма, што я памыляюся, можа мае веды ўстарэлыя, можа ў міжчасе нейкі аўтарытэт, напрыклад Аляксандр Лукашэнка, заявіў, што Кірыла і Мяфодзій былі не толькі беларусамі, але жылі яны і ў Піцеры; гэтак жа, як Францыск Скарына. А калі так, то каюся за мой недагляд не толькі забаўляльных, але і інфармацыйных тэлепраграм.

Можа я залішне наводжу ўвагу на тую царкоўнаславянскую мову, калі ўсе словы „Трысвятога” арганічна ўжыліся ў расейскую і двайное сцвярджанне так мадэратара як і нашае тутэйшае ўдзельніцы тэлевіктарыны фармальна правільнае. Можа я залішне прасякся нейкім відам празмернай польскай дапытлівасці, як гэта апавядаецца ў анекдоце з роду *Polish Jokes*...

Два палякі стаўляюць хату. Адзін абівае не сайдынгам. Бярэ адзін цвік — убівае. Бярэ другі — выкідае, бярэ трэці — убівае, бярэ чацвёрты — выкідае... Ягоны супрацоўнік дзівуецца, чаму той выкідае палову цвікоў. „Выкідаю тыя, у якіх плешка не з таго канца, што трэба.” „Дурань жа ты, тыя цвікі прызначаны для прыбіўкі сайдынгу з другога боку хаты!”

Можа я памыляюся таксама ў ацэнцы дапытлівасці павіслінскага народу, можа яна не так вытанчаная, як у прыведзеным анекдоце. А напэўна не надта яна вытанчаная, калі ідзе пра яго не надта афіцыйнае стаўленне да ягоных усходнеславянскіх суседзяў. Мова тут пра мянушку, якой у больш пафасных польскіх слоўніках не падаецца. Яна даволі прыкольная і добра вядомая насельнікам нашага тутэйшага памежжа; гэта своеасаблівы элемент мясцовага фальклору.



Знак табу перад касцёлам у Пратуліне

Беларусь, яшчэ ў царскі час, а асабліва ж у савецкі, стала рэгіёнам, якому вызначалася асаблівая агракультурная роля: тут мела вырошчвацца бульба; Сталыпін разлічваў адвесці для гэтай мэты каля 90% беларускіх зямельных угоддзяў. Плады гэтай расліны, родам з Паўднёвай Амерыкі, аказаліся быць надта выгаднымі для ферментацыі адухаўляльных напояў, якія выносяць чалавека ў вышэйшыя духовыя каардынаты. І гэтая расліна стала не толькі важным кампанентам меню беларусаў, але дала ім таксама неафіцыйную мянушку бульбашоў. Можна нават сказаць, што любімы напой праведнага Ноя, галілейскіх вясельнікаў і святога раўнаапостальскага князя Уладзіміра наканаваў нам гэтае званне. Аднак мянушка гэтая ходзіць толькі ў суседзяў з былога Савецкага Саюза, а ўжо ў Польшчы яна невядомая. У палякаў беларусы нават у мянушкавым аспекце не атрымалі яшчэ незалежнасці; з гэтага менш вытанчанага напрамку беларусы астаюцца кацапамі.

Аднак у сапраўднасці гэтая апошняя мянушка адведзена расейцам. Паходжанне слова кацап адназначна не высветлена. Некаторыя этымолагі мяркуюць, што ўзялася яна са злучэння слоў *как цап* — як казёл, з увагі на тое, што расійскія мужыкі і духоўныя асобы насілі бароды. Толькі невядома, хто іх так назваў: ці гэтак назвалі іх суседзі, ці яны самі сталі так сябе называць. Бо ж менавіта ў час расійскага рэлігійнага расколу паслядоўнікі ніканаўскіх абрадавых змен мелі так абзываць стараверaў.

Ёсць і іншае меркаванне пра паходжанне слова кацап. У 1552 годзе маскоўскае войска цара Івана Грознага ачапіла Казань, сталіцу татарскага Казанскага ханства. Абаронцам горада царскія камандзіры абяцалі не чыніць зла, калі тыя без бою здадуць горад. Але калі так сталася, заваёўнікі выбілі амаль усё насельніцтва Казані. У цюркскіх мовах такіх галаварэзаў, так як і мяснікоў, называлі касапамі; гэтае слова прыйшло туды з арабскай мовы. І, магчыма, мянушка кацап пайшла ў свет з таго жорсткага эпізоду паволжскай мінуўшчыны.

Пражываючыя ва Украіне яўрэі, якія карысталіся мовай ідыш, што вырасла на нямецкім субстраце, называлі гэтую краіну Хахландыяй (**Hochland**) з увагі на бугаркаваты характар тамашняга краявіду. З гэтага мела пайсці мянушка ўкраінцаў — хахлы. У маім аднатомным слоўніку польскай мовы словы, якія пачынаюцца з прыстаўкі ***prze-***, займаюць 2,5% аб’ёму даведніка — дастаткова каб даць мянушку пшэкаў карыстальнікам польскай мовы.

Аднак гэтыя фальклорныя намінатыўныя ўзаемадачыненні нашага тутэйшага славянскага народанасялення з’явіліся мне толькі мімаходнай другаснай тэмай. Бо ж галоўным, што мяне задзівіла, гэта ўзаемастаўленне на іншым памежжы, на сутыкненні ***sacrum*** і ***profanum***, сакральнага і грэшнага, якое, мабыць, не планавалася ў згаданай тэлевіктарыне. Ці мая інфарматарка, падаючыся на спакуслівае эстраднае спаборніцтва, не паўтарыла ў агульным сэнсе той пагубнай жаночай цікаўнасці, якой праславілася жонка праведнага Лота, аглядаючыся на Садом і Гамору?.. А можа яна, як святы Бруна Кверфурцкі на нашы тутэйшыя землі, задумала занесці сваю набожную місію ў наша тэлебачанне, якое афіцыйна таксама быццам нясе нейкую грамадскую місію?..

Бываючы апошнім часам на розных мерапрыемствах сакральнага ўхілу, часта адчуваю сябе быццам у раю, быццам Адам у натоўпе спакуслівых Еў. І не надта асмельваюся здагадвацца, ці тыя нашы Евы спакушаюць розных Адамаў да ўдзелу ў духоўных мерапрыемствах, ці мо, крыху нападабенства тэлебачання, спакушаюць да ўдзелу ў іншых мерапрыемствах, пра якія ў пафасных даведніках не выпадае згадваць. Адзін з маіх прапаведнікаў часта апавядае, якія спакуслівасці паказваюць у тэлебачанні і заахвочвае наведваць храм...

Ад памежжа, здаецца, няма выхаду. І не заўсёды вядома, дзе тая мяжа. У тым ліку і мне. Не надта даўно зайшоў я ў адну нашу „тутэйшую” ўстанову. Жанчына за канторай заклапоцілася:

— Przepraszam, zapomniałam Pańskie nazwisko; niech się Pan przypomni.

— Wierzbicki.

Побач стаяў нейкі мужчына, які, мабыць, занепакоіўся магчымай чужапляменнасцю майго прозвішча і інквізітарскім тонам спытаў:

— A skad się tu wzięło takie nazwisko?

— Z Mazowsza.

— Ach, no tak, bo na Mazowszu wierzby rosną...

**Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

# Маркоўкі ніколі не далі

Сёлетні «Трыялог» у Крынках быў унікальным і таму, што былі на ім узнятыі палітычныя тэмы, якіх Сакрат Яновіч на сваіх «Беларускіх трыялогах» пазбягаў, хаця агулам у яго жыцці і дзейнасці не былі яму чужыя і ён не мог пазбегнуць гэтага. Дарэчы, адзін з удзельнікаў дыскусіі ў палітычных дэбатах у крынскай сінагозе, Адам Міхнік, дзеяч пээнэраўскай апазіцыі, галоўны рэдактар штодзёнкі **«Gazeta Wyborcza»** публічна папрасіў прабачэння за польскія ўлады, якія прывялі да асуджэння на чатыры з паловай года калоніі строгага рэжыму лідара Праваабарончага цэнтра «Вясна» ў Беларусі Алеся Бяляцкага.




Якраз **Адам Міхнік** пачаў гэтую частку «Трыялога» (пра літаратурную частку мы пісалі тыдзень таму):

— Я пазнаёміўся з Сакратам даволі позна, бо ў 1987 ці, магчыма, у 1988 годзе. Гэта быў камітэт, званы «Шасцідзесяткай», які быў склікаваны Лехам Валэнсам. Але мы ніколі не былі ў блізкім знаёмстве. Для мяне Сакрат гэта чалавек пяра і аўтар дзвюх незвычайных кніг. Першая з іх — «Беларусь, Беларусь». Я памятаю — невялікая чорная вокладка. Калі я спрабаваў знайсці яе, не мог, пэўна скраў яе адзін з маіх калег. Другая кніга, менш вядомая , «Сярэбраны яздок», тры апавяданні Сакрата Яновіча. Першае расказвае пра час у шаснаццатым стагоддзі, трэцяе гэта сучаснае пытанне, а другое ставіцца да студзеньскага паўстання. Кнігу я выграб у турэмнай бібліятэцы ў Гданьску і тады яе прачытаў. Тады таксама гэтак жа нечакана вярнулася студзеньскае паўстанне. Гэта быў перыяд вялікай папулярнасці кніг Уладзіслава Тарлецкага і папулярнасць кнігі «Польскі комплекс» Тадэвуша Канвіцкага. У гэты перыяд выходзіць узнаўленне кнігі пра студзеньскае паўстанне праф. Стэфана Кяневіча. Гэты перыяд вярнуўся. І ў глыбокім сэнсе. Бо ці мае сэнс адчайная безнадзейная барацьба, змаганне з магутнай царскай Расіяй, у сітуацыі, калі ніхто паўстанцам не дапаможа? Тады мы паставілі аналагічныя пытанні ў «Салідарнасці». Як з гэтым жыць? На дадзены момант, «Сярэбраны яздок» здаўся мне кнігай, якая трапляе ў сэрца ўсіх гэтых польскіх дэбат (...). Гэтая прыгожая гісторыя яшчэ і інструкцыя, як сябе паводзіць, калі трапіш у рукі бяспекі: ніякіх размоў, ніякіх подпісаў, ніякіх прызнанняў, не прабаваць перахітрыць іх. Проста прызнаць, што гэта быццам бы так як, калі ты ўваліўся ў яму з лайном. З дзірай з дзярмом не вядзецца перамоў, не пераконваецца, што яно з'яўляецца невыскакародным. А проста робіцца сваё. У той жа час у гэтай кнізе ёсць туга па этасе, які Сакрат хацеў бы прапанаваць беларускай духоўнасці. Каб не здацца, не паддавацца, быць верным таму, што самае важнае, хаця самае цяжкае. Для мяне Яновіч праіснаваў тады як чалавек, які раптоўна з'явіўся з цемры. У мяне склалася ўражанне, што гэта частка польска-беларускага дыялогу, пабудаванага вакол паўстання. Як вядома, у польскай традыцыі пра паўстанне ёсць неадназначнае меркаванне (...). Прозу Сакрата я чытаў як свайго роду праект будучага (...).

Пра кнігу «Беларусь, Беларусь» сказаў:

— Была яна сапраўды рэвалюцыйнай. Гэта першая кніга, у якой польскія эліты, назавем іх: апазіцыйна-інтэлектуальныя, паглядзелі на сваю гісторыю чужым, беларускім вокам (...). Важна, што гэты мастацкі твор у канчатковым выніку знакаміта ўпісваецца і ў тэмпературу польскай дыскусіі, і ў эмацыйную тэмпературу польскіх эліт. І ў кнізе аб Беларусі правакаваў проста перагляд традыцыйнага польскага мыслення, таму што гэта было нацыяналістычнае мысленне (...).

Спасла́ўся на больш шырокі кантэкст:



Злева: Міраслаў Чэх, Вінцук Вячорка, Лешак Мачульскі, Адам Міхнік

— Калі б мне прыйшлося гаварыць пра памылкі ў польскай палітыцы, калі гаворка ідзе пра Беларусь, гэта завостра, надта крайне ў польскай палітыцы было пастаўлена пытанне польскай меншасці ў Беларусі і заслаба крытыкавалі Лукашэнку, спасылаючыся на становішча беларускай большасці, а не польскай меншасці. Я сам, у рэшце рэшт, калі браў інтэрв'ю ў Лукашэнкі, успомніў аб двух беларускіх пісьменніках, для якіх у мяне вялікая павага і захапленне. Гэта Васіль Быкаў і Сакрат Яновіч. Калі пайшла гаворка пра Быкава, Лукашэнка заявіў, што ён мог супрацоўнічаць з ім, нішто не замінала. На перашкодзе стаяў Быкаў. Што тычыцца Сакрата, відаць, для Аляксандра Рыгоравіча быў гэта апавед пра жалезнага ваўка.

**Лешак Мачульскі**, былы апазіцыянер, палітык і журналіст, заснавальнік Канфедэрацыі незалежнай Польшчы пераконваў:

— Сакрат абараняў мінулае, абараняў мову, адстойваў самабытнасць. Але ён не абараняў тоеснасці, каб захаваць архіў будучыні, але каб выкарыстаць гэта ў будучыні. Ён быў накіраваны ў будучыню. Ён абараняў мову ў першую чаргу таму, што ён быў пісьменнікам. Цяжка, каб пісьменнік чымсьці іншым чым мова фармаваў прадмет абароны. Да чаго імкнуўся Сакрат? Да таго, каб Беларусь гэта не была доўгая смерць, а каб Беларусь гэта было новае жыццё. Беларусь як цалкам асобны, вельмі індывідуальны, самавыяўлены, адрозны ад іншых быт. І гэтыя элементы былі ў асноўным тут хваленыя і абмяркоўваныя. Потым мы раптам даведаліся нешта іншае. Не будзе ніякіх нацыянальных дзяржаў. Канцэпцыя, я б сказаў, трохі малалагічная, таму што калі Еўропа аб'яднаецца ў адну вялікую дзяржаву, у нас будзе адна вялікая нацыянальная дзяржава, таму што ўсе людзі будуць адчуваць сябе еўрапейцамі. Значыць, трохі дзіўная канцэпцыя. Ідэя, што дзяржава не з'яўляецца неабходнай, паколькі дзяржавы выклікаюць войны [выказаў гэты тэзіс у літаратурнай панельнай дыскусіі пісьменнік Ігнацы Карповіч — М. Х.] . Але гэта ж не дзяржавы робяць войны, гэта людзі робяць вайну.

Прыгадаў:

— Запярэчанне ў адносінах да Яновіча было вельмі выразнае. Раптам аказваецца, што можа Яновіч тут ёсць добрым нацыяналістам. Ну так, але добры нацыяналіст у польскай мове? Калі хтосьці ў станоўчым сэнсе ставіцца да нацыі, не называюць яго нацыяналістам, а кажуць, што мае развітую нацыянальную самасвядомасць, нацыянальную ідэнтычнасць. Тым не менш, нацыяналіст, як правіла, адмоўны тэрмін. Чаму ён добры нацыяналіст? Таму, што мы не можам сказаць, па меншай меры ў гэтай групе, што абарона мовы, аднаго з народаў якія загінуць, адной з гэтых нацыянальных дзяржаў, якія не маюць шанцаў перад сабою, такая абарона — чым яна ёсць? Яна — абарона мінулых бытаў, чагосьці, што сыходзіць у мінулае. І калі так, кім быў Сакрат Яновіч? Гэта загублены чалавек, які не можа пракладаць шлях у будучыню?

**Вінцук Вячорка**, грамадскі і палітычны дзеяч, былы старшыня Партыі БНФ:

— Сакрат Яновіч разумеў, што мусіць прынамсі спрабаваць ісці ў палітыку. Так здарылася, што першы раз я з ім пабачыўся акурат на палітычнай сустрэчы — гэта быў дзевяностых год. Тады было створана Беларускае дэмакратычнае аб'яднанне, першая палітычная партыя беларусаў Падляшша. І ў Белавежы адбылося трохбаковае спатканне. Мы з Мінска, з Беларускага народнага фронту, тады адзінай і інтэгральнай асацыяцыі ўсіх тых, хто быў за незалежнасць і свабоду, далёкай эміграцыі, якую практычна прадстаўляла Рада Беларускай Народнай Рэспублікі ў экзілі, і беларусы Падляшша, чыім несумненным маральна-палітычным лідарам якраз і быў, і ўсімі ўспымаўся, Сакрат Яновіч. Менавіта так: маральна-палітычным лідарам. Бо быў ён старшынёй Беларускага дэмакратычнага аб'яднання, і намінаваўся на сенатара. Аднак найбольш пасуе да яго найменне — духоўны лідар. Аятала, так бы мовіць, да якога прыслухоўваліся і дагэтуль прыслухоўваюцца ўсе тыя, хто перакладае патрэбы, інтарэсы беларускага Падляшша, зрэшты не толькі Падляшша, на мову палітыкі. Ягоны песімізм насамрэч быў актывізатарскі. Заўсёды мусіць быць тунель, у канцы мусіць быць святло. І Сакрат тады заўсёды намякае, што не так ёсць безнадзейна. Хаця, вядома, даводзілася яму астуджаць рамантызмы. Я і людзі майго пакалення тады, у 1990 годзе, былі яшчэ поўныя спадзеваў, што ўсе рухі, усе зрывы суседніх з намі народаў, тады яшчэ Савецкага Саюза, які яшчэ не развалі́ўся — аб'ектыўна з'яўляюцца нашымі паплечнікамі. Не толькі да моманту развалу сацыялістычнай імперыі, але і пасля таго. І вось гэта безумоўна напойвала нас аптымізмам. Хаця Сакрат, які перажыў за сваё жыццё ці мала палітычных рэжымаў, быў спакайнейшы. Мы час размовы ў Белавежы прысвяцілі будучаму геапалітычнаму ўладкаванню незалежнай Беларусі, у якое мы безумоўна верылі і набліжанне яго лічылі нашай супольнай задачай. Ясна было яму і ўсім нам, што добры лёс беларусаў Падляшша — у сэнсе зберажэння іх ідэнтычнасці — у першую чаргу залежыць ад дзяржаўнага ўладкавання Беларусі, краіны Беларусь у выглядзе Беларускай дзяржавы.

працяг ☞10

9 ☞ працяг

# Маркоўкі ніколі не далі



Злева: Адам Міхнік, Лешак Мачульскі, Лявон Тарасэвіч

У гэтым сэнсе адказнасці з нас — беларусаў Рэспублікі Беларусь — ніхто не здымаў і не здымае.

Адзначыў:

— На жаль, з Сакратавых тэкстаў — мастацкіх, эсэістычных, можна вынесці істотную для практычнага палітыка высноў: адчужэнне беларусаў цягам апошніх двух стагоддзяў ад любой улады (...). І такім чынам сёння ёсць краіна Беларусь, якая не цалкам супадае з дзяржавай Беларусь. Сакрат, мабыць, пра гэта не пісаў, не разважаў такіх тэм — краіны і дзяржавы, але вось з гэтага ягонага болю адвечнага адчужэння такая выснова павінна рабіцца. А чаму яна практычная, дык таму што ў гэтай сітуацыі паўстае палітычны вакуум. Ты ўцякаеш у свой побыт, у тое, каб выжыць, ты адчуваеш, што над табой стаіць агрэсіўная, дарэчы, безыдэйная ўлада, і ты імкнешся па магчымасці альбо ўхіліцца ад яе, альбо прыстасавацца да яе, альбо выканаць нейкі неабходны рытуал. Ну, гоніць яна цябе раз на пяць, на чатыры гады на тое, што называецца выбарамі (...). Цяперашні лукашызм, папраўдзе безыдэйны канструкт, грунтуе сваё панаванне над рэфлексамі, бо не свядомасцю, людзей, выкарыстоўваючы пэўныя савецкія стэрэатыпы. Вось менавіта гэта і адчуў Сакрат у 1994 годзе. У сённяшняй Беларусі аднаўляецца савецкі падыход да маніпулявання людзьмі — шмат якія атрыбуты выканання ўлады, эканамічнай сістэмы ва ўсіх нішах рынку, інфармацыйная прастора, адукацыйнае поле ў велізарнай ступені савецкія. Я думаю, вельмі важным ягоным пасылам было ў пэўным сэнсе сіметрычнае бачанне праблемы польскай меншыні ў Беларусі і беларускай у Польшчы. Што я маю на ўвазе? У свабоднай дэмакратычнай Беларусі, і толькі ў ёй, можна спадзявацца на рэальныя інстытуцыянальныя, а не суб'ектыўна матываваныя нейкімі культурнымі падачкамі гарантыі меншасці.

У ходзе абмеркавання ўзяў голас **Яўген Вапа**, старшыня Беларускага саюза ў Польшчы:

— Сакрат часта пытаўся, чаму беларускі патрыятызм называюць нацыяналізмам, а польскі патрыятызм называюць добрым. І гэтае пытанне ўсё ставіцца.

**Адам Міхнік** дадаў у больш шырокім кантэксце:

— Напэўна гэта сёння ў польскіх эліт існуе перакананне, што ўсходняя палітыка аказалася неэфектыўнай. І гэтая праблема падзяляе польскую думку. Аказалася, што канцэпцыя Ежы Гедройца не мае сэнсу, таму што не хочуць гэтага беларусы і ўкраінцы, а з літоўцамі ёсць скандал. Яны пытаюцца, чаму правакаваць рускіх, якія істэрычна рэагуюць на гэтую канцэпцыю і даюць нам плескачы па лапах. Я думаю, што гэта памылковае мысленне і на невялікую адлегласць. Але толькі на працягу кароткага часу можа быць эфектыўным, таму што расейцы на некаторы час толькі перастануць шантажаваць нас, напрыклад, цэнамі на газ. Трэба адмовіцца ад любых форм патэрналізму. Мы не можам гаварыць з Украінай і Беларуссю з пазіцыі старэйшага брата. Тое, што стане Беларуссю ці Украінай, вырашаць беларусы і ўкраінцы, не палякі. Мы ж, у нашых уласных інтарэсах, павінны падтрымліваць тое, што там дэмакратычнае, што з'яўляецца праеўрапейскім. Тым не менш, у нас абмежаваныя магчымасці. Цяперашняя сітуацыя ў Беларусі спараджае паталогіі і беларуская апазіцыя ад іх таксама не вольная. Аднак палітыка Польшчы ў адносінах да гэтай апазіцыі з'яўляецца разумнай і будзе працягвацца.

Вінцук Вячорка:

— У частцы ўсходняй еўрасаюзнай палітыкі паварот да Лукашэнкі адбыўся ў 2008 годзе, прычым да грузінскай вайны. Гэты паварот для беларускай праеўрапейскай, празаходняй апазіцыі быў халодным душам (...). Гавару пра праеўрапейска настроеную частку беларускага грамадства, якая складае ад 30 да 40 працэнтаў насельніцтва, пра людзей, якія мысляць катэгорыяй дэмакратычнай перспектывы Беларусі, для якіх вялікім здзіўленнем і расчараваннем быў паварот 2008 года — упалі праеўрапейскія настроі беларускага грамадства і гэта прывяло да расколу беларускай апазіцыі. Таму што ўзнікла фальшывая дылема: калі ты за незалежнасць, ты павінен збавіць крытыку Лукашэнкі або зусім яго не крытыкаваць, бо ён жа ж таксама бароніць незалежнасць! Трэба заключыць тактычны саюз. А калі ты выступаеш супраць дыктатуры, то ты ледзьве не становішся паплечнікам Масквы! І ў выніку атрымалася, што каштоўна зарыентаваная апазіцыя, якой давяралі людзі што расчараваліся ў дыктатуры, якія разумелі, што дэмакратыя і незалежнасць Беларусі і еўрапейскі выбар гэта адно і тое самае — яны разгубіліся. І тое, што мы назіраем цяпер, гэта такі накдаўн беларускай апазіцыі, гэта ў пэўным сэнсе наступства вось такога развароту.

**Уладзімір Някляеў**, рэпрэсаваны апазіцыйны палітычны дзеяч, паэт:

— У тое, што Лукашэнка і Пуцін схочуць абваліць беларускі бізнес, я не веру. Палітыка ЕС у дачыненні да Беларусі ніколі не была аднароднай. Ёсць, напрыклад, палітыка Польшчы ў адносінах да нашай краіны і ёсць ужо зусім іншая нямецкая палітыка, якая хоча, каб Беларусь абысці і пагаварыць аб ёй з Расіяй (...). Маркоўка Еўрасаюзам ніколі Беларусі не давалася (...). Так як у нас было адно мінулае, мы павінны мець адно будучае...

*(працяг будзе)*

**Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА**




## www.muzyki.by

Нягледзы на амаль паўсюдную прысутнасць інтэрнэту, далёка не кожны музычны фальклорны беларускі калектыў мае сваё прадстаўніцтва ў сусветным павуцінні. Таму тыя з падобных музыкаў, хто дбае аб сваім сайце, выклікае як цікавасць, так і большую павагу. Адным з прыкладаў клопату аб сваім іміджы ў інтэрнэце можна назваць віртуальнае прадстаўніцтва „Крупіцкіх музыкаў" — аматарскага музычнага калектыву з вёскі Крупіца, што ў наваколлях беларускай сталіцы.

Сайт, які носіць з музычнай групай адну назву, месціцца па адрасе **http://muzyki.by.** „Крупіцкія музыкі" распачалі сваю творчую біяграфію ў 1982 годзе. Пра гэта распавядаецца на галоўнай старонцы. Дарэчы, яна выканана вельмі прафесійна і таму прываблівае погляд нават выпадковага інтэрнэт-карыстальніка. На фоне нібыта вялікай тэатральнай заслоны падаецца назва, побач з якой выйсці на тры моўныя версіі сайта — рускую, беларускую і англійскую. Затым ідуць выйсці на нешматлікія рубрыкі, а ніжэй зменлівыя фотаздымкі выступаў аматараў беларускіх народных танцаў і спеваў.

„Рэпертуар калектыву — гэта беларускі музычны, песенны і танцавальны фальклор у яго сцэнічным увасабленні: яскравыя інструментальныя нумары, лірычныя і жартоўныя песні, арыгінальныя харэаграфічныя мініяцюры і традыцыйныя танцы", — распавядаецца далей на галоўнай старонцы.

Пры жаданні больш дэталёвага азнаямлення з „Крупіцкімі музыкамі", варта зазірнуць на старонку „Аб калектыве". Адтуль можна даведацца, што „Крупіцкія музыкі" вядуць актыўную канцэртную дзейнасць на радзіме і за яе межамі. „Ансамбль з'яўляецца лаўрэатам шматлікіх конкурсаў і фестываляў, вядзе дабрачынную і асветніцкую дзейнасць. У калектыве займаюцца звыш 30 чалавек. У поўным складзе «Крупіцкія музыкі» могуць прадставіць канцэртную праграму на паўтары гадзіны, гадзіну (музыканты і спевакі), ці да 45 хвілін (камерны інструментальны гурт). З 2009 года мастацкім кіраўніком ансамбля з'яўляецца Наталля Лісіца", — кажуць „музычныя" крупічы самі пра сябе.

Цікава азнаёміцца з геаграфіяй выступлення крупіцкіх аматараў беларускага фальклору — яны пабывалі ў 15 краінах ад Францыі да Японіі, прычым найбольшую колькасць разоў месцам выступленняў была Нямеччына.

Каля дзесятка фотаздымкаў з канцэртаў „Крупіцкіх музыкаў" можна знайсці на старонцы „Фота". Праўда, не абышлося без недахопу — дзе і калі былі зроблены тыя здымкі відома, відаць, толькі музыкам і іх кіраўнікам, бо нідзе няма аніякіх подпісаў.

Больш інфармацыйнай падаецца рубрыка „Відэа". Там размешчаны фрагменты выступленняў музычнага калектыву і даюцца назвы таго, што яны танцуюць ці спяваюць.

Нягледзячы на выдатна аформлены сайт, бачна, што не заўсёды яго ўладальнікі маюць час, каб часта ім займацца. На такую думку наводзіць наведванне рубрыкі „Навіны". Там месціцца ўсяго толькі тры паведамленні — першае ад леташняга красавіка і два наступных ад сёлетняга чэрвеня. Наўрад ці, за прайшоўшыя паўтары года ў калектыва, што вядзе „актыўную канцэртную дзейнасць на радзіме і за яе межамі" амаль не было навін.

Апошняя ў спісе рубрыка „Кантакты". Там падаюцца паштовы і электронны адрасы „Крупіцкіх музыкаў", нумары тэлефонаў кіраўнікоў калектыву.

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**

## Дата з календара



„Расстраляны", але жывы

# 100 год з дня нараджэння Рыгора Зыбайлы

15 верасня споўнілася 100 гадоў з дня нараджэння Рыгора Зыбайлы, беларускага вайсковага і палітычнага дзеяча. Нарадзіўся ён у 1913 годзе ў вёсцы Яглевічы (тагачасны Слонімскі павет, цяперашні Івацэвіцкі раён). Вядома, што Зыбайла вывучыўся на лясного інжынера. Ён служыў у польскім войску і ў час вайны 1939 года трапіў у нямецкі палон. Пасля вызвалення працаваў у Белай-Падляшскай. А ўжо ўвосень 1941 года перабраўся ў родныя мясціны і стаў кіраўніком Слонімскага акруговага камітэта Беларускай народнай самапомачы. Быў сябрам падпольнай Беларускай незалежніцкай партыі. За пратэсты супраць нямецкіх рэпрэсій у дачыненні да мірнага насельніцтва быў зняты з пасады і адпраўлены на работы ў Дзярэчын. Улетку 1943 года пераехаў у Менск, дзе стаў намеснікам старшыні БНС. У 1944-1945 гадах — афіцэр Беларускай краёвай абароны і дэсантнага батальёна „Дальвіц". Урэшце перайшоў да французскіх партызанаў.

Паводле адной з версій пасля 1945 года схоплены НКВД і на шматгадовы тэрмін зняволены ў савецкія канцлагеры. Паводле іншай версіі Рыгор Зыбайла загінуў у 1945 годзе ў Францыі. Яго біяграфію даследаваў Сяргей Ёрш. Беларуская эміграцыйныя выданні падаюць, што Зыбайла быў расстраляны контрразведкаю польскай арміі Андэрса ў Марселі ў 1945 годзе. Нібыта, пасля таго, як у яго знайшлі фотакартку, дзе ён быў у форме афіцэра БКА. Аднак насамрэч гэта была толькі легенда. Гісторыя з „расстрэлам" дазваляла яму знікнуць — савецкія агенты палявалі на таго. А Рыгор Зыбайла, праўдападобна, атрымаў прапанову працаваць у нейкай сакрэтнай установе на Захадзе.

Вязень ГУЛАГа Віктар Сікора ўспамінаў, што пасля вайны Зыбайла выкладаў у сакрэтнай школе, дзе рыхтаваліся людзі для антыбальшавіцкага супраціву. Зыбайла, нібыта, быў выкрадзены савецкімі агентамі і вывезены ў СССР. Ёрш піша, што іншы беларускі патрыёт Пётра Пархута расказваў і адрозную версію ягонага лёсу. Паводле яе Зыбайла сам вярнуўся з Чэхаславаччыны ў родную вёску Яглевічы ў 1950-х гадах, дзе далей працаваў будаўніком. На карысць гэтай версіі сведчыць той факт, што Рыгор Зыбайла пахаваны менавіта ў Яглевічах непадалёк Івацэвічаў. Ён дажыў да перабудовы і памёр 15 лістапада 1987 года. На надмагільным помніку надпіс па-беларуску. Сын беларускага патрыёта на кантакт з гісторыкамі катэгарычна не ішоў. Кажуць, што яму было няпроста жыць з-за мінулага бацькі. Вядома і кур'ёзная гісторыя, калі аднойчы ў івацэвіцкай раённай газеце быў змешчаны здымак групы будаўнікоў, а сярод іх і Зыбайла. На магілках побач з Зыбайлам пахаваная і яго жонка Еўдакія Казлова, якая памерла на чатыры гады раней мужа. Нібыта каханне ў іх было яшчэ з юнацтва. Па некаторых звестках у вайну яна працавала ў Слоніме настаўніцай і была савецкай разведчыцай, крыху пазней уладкавалася на працу ў Беларускай Цэнтральнай Радзе да Радаслава Астроўскага і перадавала саветам розныя інфармацыі. Казлова і Зыбайла ажаніліся пасля ягонага вяртання з савецкіх канцлагераў. Колькі ён там быў у зняволенні і з якога часу — невядома. Такія вось перапляценні лёсу.

Дакладна можна сцвярджаць тое, што Рыгор Зыбайла — адна з самых легендарных і загадкавых асоб беларускага вызвольнага руху.

**Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Даследаванне страчанага

**Падкрынскія вёскі — забытыя прыпынкі на карце падарожжаў беларускай культуры і навукі. Дзесяцігоддзямі пасярод мясцовых развівалася пачуццё апошнясці і непатрэбнасці. Цяпер дасягнула яно канчатковага завяршэння. Запозна ўжо на ўздыманне таго, што беззваротна адышло.**



Чатыры гады таму застыўшую памяць апошніх аўтахтонаў пачалі разаграваць аматары мясцовага фальклору і гісторый з крынскай суполкі «Тэрра інкогніта». Услед за імі пайшлі зацікаўленыя тэмай падляшскія журналісты, фотарэпарцёры і фільмоўцы. «Мы нічога вам ужо не раскажам, — гавораць мясцовыя. — Тут усё закончылася, зарасло лесам». Спадарыня Вера з Рудакоў, якой пераваліла за восемдзесят, да самой зімы займаецца вялікім агародам. Нідзе больш не сустрэць такой галерэі традыцыйных кветак і кустоў на чале з апетай народам калінай. Агародніны і садавіны хапае ўсёй беластоцкай сям'і спадарыні Веры. «Але ж нікому гэта непатрэбна», — кажа яна, не адрываючы рук ад пустазелля ў трускалкавых градках. Тут за стадолай усюды былі палоскі са збожжам, бульбай. Цяпер, куды ні глянь, адзін лес. Свету за ім не відаць. Усё ж такі спадарыня Вера, як і яе сусед Пеця, згадзіліся паратаваць прыбылых у вёску навуковых супрацоўнікаў Кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага ўніверсітэта. Далёка не кожны здольны раскрыць поўную цяжкіх выпрабаванняў лёсу душу, тым больш незнаёмым. Да ўключаных дыктафонаў распавядалі яны пра свае жыццёвыя, найчасцей невясёлыя, досведы. Даволі доўгія і дэталёвыя допыты стамілі адвыклых ад успамінаў рудаўлян. «Вы ўжо больш не прыязджайце сюды, — пры развітанні папрасіла бабуля Вера, — зрэшты, праз год нас ужо тут не будзе». З аднолькавай, характэрнай усходнім нацыям шчырасцю запрапанавала яна гасцям назбіраць смачных яблык на далёкую дарогу. Падаркамі — лазовымі кошычкамі завяршылася таксама сустрэча гасцей з Варшавы з адным з апошніх мясцовых рукадзельнікаў Уладзімірам Пучкялевічам, родам з падкрынскіх Белагорцаў. Паводле слоў удзельніка згаданай экспедыцыі, доктара гуманітарных навук Юзэфа Зямчонка, вельмі цікавы чалавек, якім з'яўляецца спадар Уладзімір, карыстаецца тыповай сярэднебеларускай гаворкай фактычна бездакорна. З майстрам лазапляцення сустрэліся таксама прафесар Мікалай Хаўстовіч, дактарантка Вольга Траццяк, Лілія Зямчонак і студэнтка Ангеліка Пэйлак.

Гутаркі акадэмікаў з жыхарамі Крынак і навакolля праводзіліся ў рамках навукова- даследчага праекта «Культурна-моўная спадчына Падляшша», які з'яўляецца часткай «Нацыянальнай праграмы развіцця гуманістыкі», патранат над якой трымае Міністэрства навукі і вышэйшай адукацыі. Кіраўніком праекта з'яўляецца прафесар Ніна Баршчэўская. Апрача Сакольшчыны ў арбіце зацікаўлення навукоўцаў апынуліся яшчэ Гайнаўшчына і Бельшчына. Тут даследавалі яны перадусім сучасныя варыянты мовы, называнай суразмоўцамі простай, сваёй альбо тутэйшай. Разам з тым ім цікава было таксама даведацца пра традыцыі і фальклор на згаданай тэрыторыі. Чатырохгадовая даследчыцкая праца завершыцца выданнем двзюх кніг і кампакт-дыскаў. Яны ўлічаць таксама матэрыялы трыццацігадовай даўнасці, сабраныя кафедрай у рамках фальклорнай практыкі. «Нашая экспедыцыя, — гаворыць прафесар Хаўстовіч, — цікавая тым, што стварае магчымасць параўнання таго, што было трыццаць гадоў таму назад да нашых цяперашніх запісаў».



Людзей, якія могуць распавесці на роднай мове пра традыцыі Крыншчыны, засталося непраўдападобна мала. Існуе рэальная пагроза, што завяршэнне працы над праектам супадзе па часе з канчатковым знікненнем беларускай мовы і культуры на гэтай тэрыторыі.

**Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН**

## Адгаданка

1. поўнае задавальненне жаданняў, капрызаў; ласкавасць, 2. бялградская рака, 3. змена прасторавых каардынат з ходам часу, 4. Юры, беларускі гісторык, аўтар працы „Беларусь пад нямецкай акупацыяй", 5. без агню не бывае, 6. маці Авеля, 7. імя персідскіх цароў з роду Ахеменідаў, 8. сусед прапола, 9. дзесяць у квадраце, 10. форменнае паліто, 11. расліна з мясістым горкім коранем, які з плачам выкарыстоўваецца як вострая прыправа, 12. схватка, 13. дол, 14. Зямля з навакольным Космасам.

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | 1 | | |
| | 2 | | 3 | | | | | |
| | | | 4 | | 5 | | 6 | |
| | | 7 | | | 8 | | | |
| 9 | 10 | | | | | 11 | | |
| | | | | 12 | 13 | | | |
| | | | | 14 | | | | |

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — чэшская пагаворка.

(ш)

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 33 нумара**

Гаць, Ной, рот, сецьь, хіт, шып.

Рашэнне: **Хто спіць, той не грашыць.**

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Лявону Федаруку** з Рыбал і **Казіміру Радошку** са Свебадзіцаў.

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Ілона Карпюк, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA" oraz „GARMOND PRESS", siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach 7<sup>00</sup> – 18<sup>00</sup>. Koszt połączenia wg taryfy operatora.
**Prenumerata w redakcji**
Prenumerata kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Planowana ilość numerów „Niwy" w 2013 roku — 52.
**Wpłaty przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład**: 1 100 egz.

## 22.09 — 28.09

**(22.03. — 20.04.)** Пагоршыцца твая віtальнасць; вельмі дбай аб свой страўнік. Не зазнай стрэсу. Самотныя Бараны можа і не зачаруюць тых, хто ім падабаецца, ды на недахоп аматараў не будуць наракаць. 22-23.09. будзеш экспертам. 24-28.09. паправіцца твая фінансавая сітуацыя; прыбыткі, узнагароды; абавязкова зайграй у латарэю! З 26.09. хтосьці можа цябе захапіць, ды нічога з гэтага не атрымаецца.

**(21.04. — 21.05.)** Будзеш здаровы і поўны энергіі. Пойдзеш уверх і ў кар'еры, возьмеш справы ў свае рукі. 24-28.09. усміхнецца да цябе шчасце! Удасца табе здзейсніць свае мары.

**(22.05. — 22.06.)** Не стаў спраў рубам, тактычна здабудзеш больш. Самотныя Блізняты могуць сустрэць кагосьці, з кім спазнаюць смак шчасця. Але вельмі ўражлівыя ў цябе дыхальныя шляхі, ныркі і горла. Можаш сесці на вастрэйшую дыету. Шукай саюзнікаў, бо трэба будзе пазмагацца за сваё.

**(23.06. — 23.07.)** Убачыш пазітыўныя бакі ў сваіх пачуццёвых ладах. Павялічыцца апетыт, дык пільнуйся. Калі вяртаешся да здароўя па хваробе, хутка паправішся (добры час на санаторый ці рэабілітацыю). 22 і 23.09. не прапусці важных дэталяў.

**(24.07. — 23.08.)** Вельмі дбай аб сваё здароўе, бо будзеш мець малавата энергіі. Вельмі ўслухоўвайся ў думку на сваю тэму таксама асоб, якіх можаш не любіць. У кар'еры будзе ісці ўсё штораз лепш пасля 24.09. Але з 26 (да 30.09.) могуць наступіць сур'ёзныя праблемы з канкурэнцыяй на працы.

**(24.08. — 23.09.)** Не слухай незычлівых людзей наконт тваёй пары. З 24.09. справішся з навалам працы, прытым не адзін. Будзеш душой кампаніі. Будзеш рэагаваць нервова, нават драбяза зможа давесці цябе да выбуху злосці, могуць прычапіцца праблемы, звязаныя са страўнікам, кішкамі, з памяццю; еж магній і вітамін Б. Не бойся ісці да лекара. Да спакушальных фінансавых прапаноў стаўся памяркоўна.

**(24.09. — 23.10.)** 24-28.09. разгарнеш свае крылы і ўрэшце выкарыстаеш таленты і сягнеш па тое, аб чым марыш. Да 29.09. будзеш вельмі кемлівым і інтэлігентным. Паправіцца твой настрой.

**(24.10. — 22.11.)** Знайдзі больш часу для сямейнікаў; супольныя выезды і вечары надоўга застануцца ў вашай памяці. Прыбудзе дадатковая каса; знакаміты час на інвестыцыі, ды раней усё добра абдумай.

**(23.11. — 22.12.)** 22.09. не вырашай важных спраў. 22 і 23.09. плануй бюджэт. 24-28.09. знакаміты настрой. Урэшце ўсміхнецца да цябе шчасце! Зайдзі да касметолага, парабі аналізы здароўя. Лепш не бяры нічога ў крэдыт, бо можа стаць ён для цябе кандаламі.

**(23.12. — 20.01.)** Можаш знайсці файную кампанію, таксама ў інтэрнэце. Калі стараешся за дзіцятка, можа ўдацца. 22-24.09. вельмі ўдалы час; маеш шанц паказаць дзе ракі зімуюць адной урэднай асобе. 27 і 28.09. будзеш крытычны і недаверлівы. Спрыяе табе шчасце ў нерухомасцях, ва ўстановах і ў натарыуса.

**(21.01. — 19.02.)** У пачуццях усё пад кантролем. Лёгка здабудзеш сімпатыю атачэння. Найлепш дагаворышся з наймалодшымі ў сям'і. Вернецца табе сіла і жыццярадаснасць, добра зробіць табе высілак на свежым паветры (толькі не перабаршч!). Не будзь прагны, бо цябе ашукаюць. Дзейнічай сам, супрацоўніцтва можа канчыцца вялікай сваркай. Дні 24-28.09. будуць для цябе асабліва ўдачлівыя.

**(20.02. — 21.03.)** Пашчыльненне сувязей з далейшымі сваякамі. Прыліў новых сіл. Чакаюць цябе і дадатковыя прыбыткі. Але ўсё ж пільнуй свайго кашалька; планеты асцерагаюць перад кімсьці, хто будзе шукаць «лёгкага заробку». Знакаміты настрой і табуны... аматараў. Можаш чакаць сур'ёзнай дэкларацыі. Маеш шанц атрымаць задзіўляючую прапанову ад даўняга знаёмага.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

# Бегалі і збіралі

Амаль пяцьдзесят удзельнікаў з Падляшскага ваяводства, а таксама з іншых польскіх рэгіёнаў прынялі ўдзел ужо ў другім Падляшскім дабрачынным паўмарафоне для анкалагічнага госпіса ў Новай Волі. У паўмарафоне трэба было перабегчы 21 кіламетр, у сямейным бегу — два кіламетры. Грошы, сабраныя падчас прабегу, будуць выкарыстоўвацца для штодзённага ўтрымання хатняга госпісу. Удзельнікі паўмарафона пазней прынялі ўдзел у штогадовым, ужо дзесятым Свяце грыба ў аддаленым на кіламетры чатыры Міхалове.

Як і летась, цэнтрам барацьбы быў размешчаны ў будынку былой школы Фонд «Падляшскі анкалагічны госпіс». Як мы ўжо згадвалі ў «Ніве», дзякуючы падтрымцы людзей добрай волі, гэты будынак быў адрэстаўраваны. Фонд атрымаў аўтамабіль для перавозу людзей з абмежаванымі магчымасцямі. Са снежня 2010 года ў Новай Волі працуюць тэрапеўтычныя майстар-класы.

— Дапамагаем трыццаці людзям з абмежаванымі магчымасцямі. У шасці майстэрнях адбываюцца кулінарныя заняткі, швейныя, мастацкія і рукадзельніцкія майстар-класы. Нашы пацыенты прыбіраюць агарод, самі рыхтуюць ежу. Такія людзі вучацца, як спраўляцца ў жыцці, як афармляць справы ў адміністрацыйных установах, — тлумачыць а. Яраслаў Шчэрбач, праваслаўны святар, віцэ-старшыня Фонду. — Гэта дазваляе людзям з абмежаванымі магчымасцямі на кантакт з людзьмі, і што больш важна, каб адчувалі сябе патрэбнымі.

Мэтай Фонду з'яўляецца дапамога невылечна хворым і іх сем'ям. Сам госпіс працуе без кантракту з Нацыянальным фондам здароўя. Гэта адзіная такая ўстанова ў Польшчы і ахоплівае сваёй дзейнасцю вёскі пяці памежных гмін. Старшынёю Фонду з'яўляецца анколаг Павел Грабоўскі. Паўтараў ён перад стартам гонкі:

— Наша дзейнасць матывавана павагай да чалавечага жыцця, да людзей пахаваных па сваіх дамах з невылечнай хваробай.

Айцец Яраслаў Шчэрбач:

— Мы ўтрымліваемся з аднаго працэнта добраахвотна адводжанага людзьмі ад падатку і з ахвяр донараў. Патрэбы ў нас усё большыя, паколькі ўсё больш і больш пацыентаў. Падчас паўмарафона наступае інтэграцыя асоб з інваліднасцю і здаровых, усіх узростаў.

Медсястра ў госпісе ў Новай Волі, валанцёрка пры паўмарафоне Кацярына Назарка непасрэдна перад гонкай сказала «Ніве»:

— У паўмарафоне прымае ўдзел шмат удзельнікаў нашых майстар-класаў па працатэрапіі. У сямейнай гонцы бягуць і іх апекуны. Вельмі цяжка заахвоціць людзей прыняць удзел у гонках. Маладыя людзі не хочуць бегаць, займацца спортам, аддаюць перавагу камп'ютару. Тым не менш, знайшліся такія, якія хочуць пабегчы і пры нагодзе дапамагчы іншым.

Адна з арганізатарак мерапрыемства Магда Юрчук (задумшчыца выпуску альбома з беларускімі песнямі, даход ад продажу якога падтрымае госпіс у Новай Волі):

— Пасля мінулагодняга паўмарафона ў нас ёсць шмат сяброў. Многія з удзельнікаў, можна сказаць, што старых сяброў, прынялі ўдзел у нашым прабегу ў мінулым годзе. У гэтым годзе ўпор быў зроблены на тое, каб бег быў больш прафесійна падрыхтаваны, а менш каманд запрасілі да мастацкай часткі, на выступленні на сцэне перад школай.

У сёлетнім паўмарафоне самай вялікай была група ўдзельнікаў сямейнага прабегу. Сярод марафонцаў апынуліся тры хлопцы з Гарадоцкай гміны. Адным з іх з'яўляецца Андрэй Траскоўскі з гміннага цэнтра:

— Я вырашыў прыняць удзел у паўмарафоне, таму што ён дабрачынны. Я пачаў трэніравацца на месяц раней: роварык у сябе дома і штодня прабежка. Ну, цэлы месяц без піўца і ўвогуле алкаголю.

Яго дваюрадны брат Матэвуш Юрчук з Зарэчан:







Люба Аксюльчык

— Я бягу таму, што я, як і Андрэй, хачу падтрымаць гэтую ідэю. Разам мы трэніраваліся.

Самым старэйшым удзельнікам гонкі быў народжаны ў 1939 годзе жыхар Гайнаўкі Лявонцій Стасевіч. Ён пабег ужо другі раз. На гэты раз ён фундаваў свой прыз для самага маладога ўдзельніка бегу — статуэтку зубра:

— Я бягу, хаця ў мяне ёсць два гады незагойная траўма. Тым не менш, я бягу, таму што гэта прыцягвае як наркотык. Я ўдзельнічаю ў многіх паўмарафонах. Я ўфундаваў узнагароду самаму маладому ўдзельніку, таму што цяпер маладыя людзі — «няпоўнаспраўныя». Нават прымушаюць бацькоў вызваліць іх ад фізкультурных заняткаў!

Іншы з бегуноў, якія пабеглі зноўку, жыхар Кляосіна нават бег у мінулагодняй футболцы:

— У мяне да людзей толькі добрыя пачуцці. Калі я, бегучы, магу дапамагчы камусьці, то бягу. Так мяне выхавалі, што людзі дапамаюць адны адным. Мабыць, калі-небудзь і я буду мець патрэбу ў дапамозе.

Ганаровым амбасадарам нававольскіх змаганняў быў Пётр Пігонь, аніматар спартыўна-дабрачынных акцый для людзей з абмежаванымі магчымасцямі, марафонец, плывец і альпініст, які сам змагаецца з ракам (удалілі яму адно лёгкае). Звярнуўся ён да бегуноў перад стартам:

— Кожны кіламетр прысвячаю інвалідам, хворым. Магчымасць перабегчы кожны кіламетр, кожны ўздых, кожны крок з'яўляецца вялікім падарункам ад нашага шэфа на самым версе. У нас ёсць усё чаго трэба: знакамітая кампанія, выдатнае надвор'е і *power*, які ёсць у нас.

Над бяспекай бегуноў назіралі міхалоўскія паліцыянты і два афіцэры мясцовых памежнікаў. Адзін з памежнікаў прыняў удзел у гонцы. Яго сябар і калега, ахоўваючы паток руху на шашы, прызнаўся нам:

— Наш сябар бяжыць тут таму, што яму падабаецца бегаць наогул. Ён бегае кожны дзень. Гэта прыклад таго, што нашы памежнікі вядуць здаровы лад жыцця. Гэта таксама падтрымка госпісу ў Новай Волі. Дарэчы, мы сярод сябе ў нашай установе таксама збіралі сродкі для гэтай мэты.

Удзельнікам гонак былі ўручаны кубкі і медалі. У 1 гадзіну 22 хвіліны 50 секунд выйграў Адам Супінскі з Пратас. Час сямейнага бегу не мералі. Многія з удзельнікаў II Паўмарафона пасля прынялі ўдзел у «Свяце грыба» ў амфітэатры ў Міхалове.

Рушыўшы адмысловым аўтобусам у суседнія лясы ўдзельнікі конкурснага збірання грыбоў Аліна Казбярук і Галіна Лаўрашук сказалі нам у адзін голас:

— Я не магу ўявіць Міхалова без «Свята грыба». У гэтым годзе, як да гэтага часу, увогуле мала грыбоў. Няма ані баравікоў, ані маслякоў. Прыйдзецца шукаць грыбоў хіба пад корчыкамі. Надвор'е не падыходзіць, замала ападкаў.

У пошуках грыбоў выбралася больш за дваццаць энтузіястаў, у тым ліку солтысы навакольных вёсак. Традыцыйна арганізаваны быў (як і ўсё міхалоўскае свята міхалоўскім Гмінным цэнтрам культуры і мэрыяй) конкурс на лепшую грыбную страву. Галоўны прыз — 300 злотых, наступныя на сто злотых менш. Адной з удзельніц была Люба Аксюльчык, солтыска вёскі Пянькі:

— Я прынесла лазанью з плiскамі. Зрабіла яе хатнім спосабам. Насмажыла вельмі тонкіх блінчыкаў. Да гэтага трэба абсмажыць мяса, многа плісак, цыбульку і дадаць спецыі. Усё гэта перакладваецца і пасыпваецца сырам і змазваецца маянэзам. У мяне ёсць яшчэ пліскі ў воцаце . Тут гаворка не пра выйгрыш, але каб людзі пабачылі, што і так яшчэ можна зрабіць.

Станіслаў Малесінскі з Гарадскога цэнтра спорту і адпачынку ў Міхалове сказаў нам:

— Мы адпраўляем у лес удзельнікаў конкурсу з леснікамі, якія забяспечваюць тэрыторыю. У іх ёсць паўтары-дзве гадзіны. Тыя, хто набраў найбольшую колькасць, што важнае — ядомых! — грыбоў, перамагаюць. Сартуюць іх на ядомыя і неядомыя працаўніцы санэпідэмстанцыі. Галоўным прызам з'яўляецца скульптура грыба з надпісам: «**Władca grzybowy**». Лепшы вынік на працягу дзесяці гадоў конкурсу дасягнула солтыска вёскі Патокі Галіна Раманчук, якая прынесла два вялікія кошыкі і два рэкламныя кулькі поўныя грыбоў.

Бурмістр Міхалова Марк Назарка (ганаровы патрон дабрачыннай гонкі ў Новай Волі) запэўніваў нас у час грыбнога фэсту:

— Грыбы гэта здароўе, экалогія, адпачынак, а для многіх тутэйшых людзей гэта спосаб для дадатковага даходу. Мы таксама хочам, дзякуючы гэтай падзеі, стварыць вобраз здаровай, экалагічнай гміны, дзе можна адпачываць. Сам таксама люблю хадзіць па грыбы, хаця ў мяне мала часу, але раз, два на баравікі ці зялёнкі заўсёды выскачу.

**Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА**

ISSN 0546-1960